№ 38 (875) 15 кастрычніка 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Анфімаў: ад пастуха да галоўнага пастуха краіны



Новым кіраўніком Дзяржкантролю стаў 60-гадовы Леанід Анфімаў. **Старонка 4**.



Матч Беларусь—Украіна ў Барысаве ператварыўся ў дэманстрацыю салідарнасці. Фанаты з абедзвюх краін разам спявалі пра Пуціна, «Жыве Беларусь» і «Слава Украіне». **Старонка 3**.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# ЛА-ЛА-ЛА-ЛА-ЛА-ЛА-ЛА-ЛА-ЛА



## Захар Прылепін: «Расіі трэба прысутнічаць у Беларусі»

Старонка 3



## Праваслаўная святая Соф'я Слуцкая аказалася... каталічкай

Старонка 14



REUTERS

## Інтэграцыя па графіку Пуціна

Беларусь такі ратыфікавала Дамову аб Еўразійскім саюзе без удакладненняў. **Старонка 5**.

# Ла-ла-ла-ла!..

Матч Беларусь—Украіна ў Барысаве ператварыўся ў дэманстрацыю салідарнасці. Фанаты з абедзвюх краін разам **спявалі пра Пуціна**, выкрыквалі «Жыве Беларусь» і «Слава Украіне».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Расійская прапаганда прысутная ў Беларусі ўсюды, украінскіх каналаў у кабельных сетках няма, але футбольны матч выявіў, што ў канфлікце Расіі і Украіны многія беларусы сімпатызуюць слабому.

З украінскай трыбуны ўжо на пятай хвіліне гульні пачулася «Пуцін – х*йло». Гэтую дзёрзкую і вясёлую крычалку прыдумалі футбольныя фанаты каманды «Металіст» з усходнеўкраінскага горада Харкаў. Цяпер яна вандруе са стадыёна на стадыён.

Беларускі фан-сектар спачатку асцярожна прыслухоўваўся. Узіраліся, ці не выскачыць на гасцявую трыбуну спецназ. Ці не пачнецца «мачылава». Не, ніхто не зварухнуўся. Усё ў парадку — беларусы разняволіліся. І заспявалі самі.

І тады 10-тысячная «Барысаў-Арэна» пачула ў беларускім выкананні і «Воіны святла», і «Жыве Беларусь», і «Слава Украіне». І, канечне, пра Пуціна, які акурат меў прызямліцца ў аэрапорце «Мінск» за 50 км ад Барысава на наступны дзень.

### Апошні матч Лукашэнкі

Сляпое лёсаванне звяло нацыянальныя зборныя Беларусі і Украіны ў адну адборачную групу да чэмпіянату Еўропы. Матчы суседніх краін ужо выходзілі знакавымі. У верасні 2001-га, за пару дзён да прэзідэнцкіх выбараў, у Беларусі зборныя сышліся на «Дынама». Гэта быў адзіны выпадак, калі наша каманда рэальна магла выйсці на топ-спаборніцтва. Нашы саступілі, Малафееў выгнаў з каманды лідараў — Бялькевіча і Хацкевіча. А яшчэ гэта была апошняя гульня зборнай, якую асабіста наведваў Лукашэнка.

Кажуць, яго раз'юшыў свіст на свой адрас.

### Харкаўскія фанаты

Падчас нядаўніх украінскіх падзеяў футбольныя фанаты былі адной з рухальных сілаў Майдану. У складаныя для краіны моманты фанаты кіеўскага «Дынама» і данецкага «Шахцёра» — заклятыя ворагі — аб'ядналіся, каб згуляць матч дружбы. Прадэманстраваць, што краіна адна і большых разнагалоссяў, чым любімы клуб, у іх няма.

А крычалка «Пуцін — х...ло, ла-ла-ла-ла...» стала сапраўдным хітом.

### Затрыманні напярэдадні

Беларускія фанаты чакалі прыезду гасцей з Украіны. Былі выпушчаныя адмысловыя наклады налепак і магнітаў з выявай Трызуба і Пагоні і надпісам на дзвюх мовах «Браты назаўжды». А яшчэ адзін з прадстаўнікоў нашых ультрас заявіў, што на гульні рыхтуецца перформанс у знак салідарнасці з Украінай.

Нашы праваахоўнікі ўспрынялі гэта як сігнал да дзеяння. «Ёсць не адзін выпадак, калі людзей забіраюць з дома/працы ... Забіраюць проста так... Мы толькі прыедзем, распішыцеся і паедзеце, кажуць міліцыянеры. Па выніку даюць 10 сутак... І прыходзяць не толькі з раніцы, як звычайна, але і позна вечарам! Будзьце асцярожныя», — папярэджвала суполка Укантакце фанатаў мінскага «Дынама».

«Затрымлівалі стандартна», — расказвае Дзмітрый, які адседзеў 7 сутак арышту. Таксама быў арыштаваны актывіст фанацкай супольнасці Б-12 Яўген Адзярыха. Усяго вядома пра больш за дзясятак арыштаваных перад гульнёй.

Некаторых украінскіх фанатаў не пускалі на тэрыторыю Беларусі, ставілі штамп аб забароне на ўезд.

### Украінцы і ўкраінкі

У краме пры жодзінскай запраўцы з паўтузіна хлопцаў у вышыванках. На прывітанне «Слава Украіне» дружна адказваюць: «Героям слава!». Усё адбываецца вельмі прыветна. Ніякай агрэсіі датычна «фашыствуюшчых бандэраўцаў» не было і на стадыёне. Некаторыя не хавалі сваю негатыўную рэакцыю. Але большасць успрымала ўсё пазітыўна.

З Кіева прыехалі дзве знаёмыя журналісткі, з якімі вясной я тусіў на адным футбольным семінары ў Берліне. У Іры пазногці размаляваныя ў колер нацыянальнага сцяга. Кажа, што так з часоў Майдану. Прывезла ў падарунак апошнюю кнігу Сяргея Жадана. За два дні да візіту ў Барысаў яна праводзіла брата ў зону АТА. Кажа, што футбол для сённяшняй Украіны — адна з нямногіх магчымасцяў развеяцца.

Даша — з Луганска, працуе ў газеце «Сегодня». «Бацькі там, у Луганску. Няма ні вады, ні электрычнасці. Але яны не хочуць нікуды з'язджаць, застаюцца там», — кажа Даша. Яе бацька спачатку сімпатызаваў «апалчэнцам», цяпер чакае, калі Украіна ўсталюе кантроль над «ДНР» і «ЛНР». «Усё вельмі кепска», — дзеліцца Даша. «А яшчэ зборная

**Хто такія Б-12?**

Гэтая суполка фанатаў зборнай існуе ад 2006 года. Спачатку яны збіраліся на хатніх матчах, а потым сталі «прабіваць» выезды. На іх сектары заўсёды белмоўныя банеры, крычалкі кшталту «Хочам. Можам. Пераможам» і песня «Тры чарапахі». На хатніх матчах яны проста адзяваюць чырвоныя майкі і не бяруць сцягі.

У ядры арганізацыі — зусім не юнакі. Гэтым хлопцам ужо за 30. Яны не кладуцца ў прынятае вызначэнне фаната — непаўналетняга гарэзы з рабочых кварталаў. Гэта сямейныя людзі, якія маюць прэстыжную працу, някепскі заробак, таму могуць дазволіць сабе два-тры выезды на год, каб падтрымаць нацыянальную каманду.

Канечне, да іх дадаюцца і фанаты клубаў. Але на сектары зборнай яны не граюць першую скрыпку. У Барысаве на гульню з Украінай у беларускі сектар сабралася каля 1500 чалавек.

**Мяккія пакаранні**

Пасля гульні адбываліся затрыманні як беларускіх, гэтак і ўкраінскіх заўзятараў. Агулам 24 чалавекі паўсталі перад судом нібыта «за лаянку матам». Беларусам прысудзілі штрафы ў памеры 600 тысяч рублёў. Украінцы былі асуджаныя на 5 і 10 сутак арышту. Але назаўтра былі вызваленыя пасля таго, як з такой просьбай звярнуўся асабіста Пятро Парашэнка. Усе звярнулі ўвагу на мяккае пакаранне затрыманых.

### Самае чытанае на nn.by за 8—14 кастрычніка

1 Матч Беларусь—Украіна зрабілі трыбуны: фанаты дзвюх краін разам спявалі пра Пуціна

2 Капітан зборнай Беларусі раскрытыкаваў заўзятараў за падтрымку Украіны

3 «Я дзяўчонкам сказала, што замуж выходжу» — ляп у жывым эфіры АНТ

4 Навукоўцы знайшлі расліну, якая лечыць ракавыя пухліны за 2 тыдні

5 За купюру 5000 беларускіх рублёў на аўкцыёне даюць 1300 даляраў

6 Мілонаў — Сафіі Ротару: «Ну што, бабуля, паўдзельнічала ў рэвалюцыі?»

7 Давыдзька: «Слава героям!» такі ж воклік, як «Хайль Гітлер!»

8 Палескія вёскі ў аб'ектыве нямецкага вайскоўца

9 Абаронца данецкага аэрапорта: Уранку прыязджае бульдозер, капае яму і зграбае трупы

10 Лідар баевікоў ДНР Губараў трапіў у засаду, ён у цяжкім стане

кепска гуляе», — пасля невялікай паўзы ўсміхаецца яна.

### Самастрэл Мартыновіча

Сам матч апісваць няма сэнсу. Той рэдкі выпадак, калі гульня была антуражам да трыбунаў, а не наадварот. Шчыра кажучы, сустрэліся дзве даволі шараговыя каманды, якія 80 хвілін адкрыта «каталі вату» (не шукайце ў гэтай фразе палітыкі). А потым для беларусаў здарылася няшчасце, калі абаронца Аляксандр Мартыновіч зрэзаў мяч у свае вароты. Крыўдна, але бывае.

### «Разам назаўжды»

Ключавым момантам гульні быў не гэты гол і нават не выкананне песні пра Пуціна, а калі беларусы сталі гукаць: «Разам», а ўкраінскі сектар у шматгалосым парыве адказваў: «Назаўжды». У той момант стала ясна, што такая салідарнасць абумоўлена не проста палітычнай сітуацыяй, а нечым большым. Мне не ўяўляецца, з кім яшчэ беларусы маглі б паўтарыць нешта падобнае. Мабыць, ні з кім. А яшчэ многія пабачылі, што «нас» рэальна больш, чым некаторыя мяркуюць.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На беларускім сектары з'явіўся нават бел-чырвона-белы сцяг, якога не бачылі на гульнях зборнай ужо вельмі даўно. А маек і шалікаў з нацыянальнымі сімваламі былі дзясяткі.

Украінцы прывезлі ў Барысаў на адзін вечар не толькі нацыянальную каманду, але і сваю разняволенасць. Беларусам спадабалася.

**Зміцер Панкавец**

**Капітан: Прайгралі праз заўзятараў**

«Я лічу, што паводзіны заўзятараў былі няправільныя. Гэта былі не столькі заўзятары, колькі група людзей… Крычаць палітычныя лозунгі, я лічу, было няправільна. Што тычыцца нашых заўзятараў, то калі вы прыйшлі на футбол, трэба ж сваю каманду гнаць наперад. Можа быць, у нас у канцоўцы і атрымалася б не прайграць. А выкрык у адрас Расіі — гэта сапраўды, я лічу, глупствы і няправільныя паводзіны. Ну і футбол — гэта не месца, напэўна, для гэтых рэчаў», — сказаў капітан зборнай Цімох Калачоў, які гуляе ў расійскім «Растове».

Магчыма, гэтыя словы Калачова паўплывалі на наведвальнасць наступнай сустрэчы са зборнай Славакіі, на якую прыйшло ўсяго 3600 гледачоў.

## Давыдзька: «Здарыўся кашмар. Не ў пройгрышы 0:2, а ў балельшчыках»

На футбольным матчы Беларусь—Украіна ў Барысаве беларускія фаны віталі гасцей скандаваннем «Слава Украіне». А ўкраінская трыбуна адказвала: «Героям слава». Такая пераклічка доўжылася некалькі хвілін.

«Здарыўся кашмар. Не ў пройгрышы 0:2, а ў балельшчыках», — заявіў на БТ праз некалькі дзён старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

Воклiч «Слава Украіне!» упершыню стаў выкарыстоўвацца стральцамі Украінскай Народнай Рэспублікі ў 1918—1920, калі яны ваявалі за незалежнасць краіны з палякамі, саветамі і белагвардзейцамі.

Адказ «Героям слава!» прыжыўся пазней.

Яго ўжывалі ўкраінскія падпольшчыкі пры Польшчы. І партызаны УПА падчас і пасля вайны.

У той жа час «строга нацыяналістычным» вітаннем было «Слава нацыі!» з жорсткім адказам «Смерць ворагам!».

Тады як «Слава Украіне» быў як пароль для «ўсіх сваіх».

У савецкі час ён быў строга забаронены.

Новае гучанне лозунг набыў падчас Еўрамайдану, калі ён стаў мантрай дэманстрантаў, якія паўсталі супраць зладзейскіх парадкаў. Таму ён і выклікаў зубоўны скрыгат дыктатараў усяго былога СССР. Не сам лозунг ім дзікі, але кантэкст, пра які ён нагадвае.

**«Слава Украіне!» можа стаць афіцыйным вітаннем ва ўкраінскай арміі**

«Гэтыя расцяжкі і гэтыя крыкі былі не на ўсім стадыёне, — удакладніў Давыдзьку рэдактар «Сельскай газеты» Сяргей Міховіч. — Гэта былі крыкі з вуснаў асобных бязвусых юнцоў з фан-зоны, якія ні гісторыі, ні ісціны не ведаюць. І яны зусім нічога не ведаюць, іх нехта падбухторвае».

«Трэба сур'ёзней да гэтага ставіцца, — пераконваў Генадзь Давыдзька. — У свой час, калі гучала «Хайль Гітлер» — адказвалі «Зіг хайль». У прынцыпе «Слава героям!» — гэта прыкладна такая фраза, такой самай якасці. Супраць чаго пратэставалі беларускія балельшчыкі, калі падтрымлівалі відавочна нацысцкі выкрык з боку ўкраінскіх фанацікаў? Салідарнасць з чым яны выказвалі? З тым, што там ідзе грамадзянская вайна?»

«Калі мы хочам, каб нашае маладое пакаленне мела свае лозунгі, мы павінны першыя выкрыкваць іх, — параіў галоўны рэдактар «Аргументаў і фактаў» Ігар Сакалоў. — Калі б там былі людзі, якія выкрыквалі іншыя лозунгі — не ведаю: пра піва, пра гастраном, нават такія несур'ёзныя рэчы, — тады гэтыя лозунгі гучалі б першымі».

**Парашэнка перанёс Дзень абаронцы Айчыны з 23 лютага**

Прэзідэнт Украіны пастанавіў увесці ва Украіне новае свята — Дзень абаронцы Украіны. Яго будуць штогод адзначаць 14 кастрычніка.

Раней Дзень абаронцы Айчыны ва Украіне святкавалі 23 лютага, у працяг савецкай традыцыі.

«З мэтай ушанавання мужнасці і гераізму абаронцаў незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, вайсковых традыцый і перамог украінскага народа, садзейнічання далейшаму ўмацаванню патрыятычнага духу ў грамадстве і ў падтрымку ініцыятывы грамадскасці», — так гаворыцца ва ўказе прэзідэнта.

У Беларусі святкуюць таксама 23 лютага, хоць незалежнае грамадства аддае перавагу даце 8 верасня — дню бітвы пад Оршай.

14 кастрычніка — шанаванае ў праваслаўных Усходняй Еўропы свята Пакроў, дзень малітваў да Божай Маці пра нябеснае заступніцтва.

Ва Украіне з 1999 года 14 кастрычніка адзначалася як Дзень украінскага казацтва. Акрамя таго, 14 кастрычніка лічыцца днём УПА, бо ёсць легенда, што Украінская паўстанцкая армія была створана на Пакроў у 1942 годзе.

«І я кажу «Слава Украіне». Але мы ведаем — вельмі многа эпізодаў, — калі чалавек на гэты выкрык дзесьці ва Украіне не адкажа «Героям слава», яго і забіць могуць», — падсумаваў Генадзь Давыдзька.

Між тым у Вярхоўную Раду ўнеслі законапраект, паводле якога вайсковае вітанне ў краіне будзе зменена на «Слава Украіне».

Калі старэйшы па званні перад строем прамаўляе «Слава Украіне», то салдат абавязаны адказаць: «Героям слава». Гэты воклiч таксама павінен выкарыстоўвацца, калі камандзір віншуе сваю вайсковую частку.

**ЯМ, МБ**

## «Расіі трэба прысутнічаць у Беларусі»

Пасля футбольнага матча паміж Беларуссю і Украінай украінцы былі ў захапленні. Відэа крычалак з Барысава абышло тэлеканалы і стала хітом на інтэрнэт-парталах. А вось у расійскім інтэрнэце было шмат негатыўнай рэакцыі. Адным з яркіх выразнікаў такіх настрояў стаў расійскі пісьменнік Захар Прылепін. Мы папрасілі папулярнага аўтара патлумачыць сваю пазіцыю.

**«Наша Ніва»: Чаму Вас, рускага чалавека, усхвалявала сітуацыя ў Беларусі?**

**Захар Прылепін:** Таму што, як усялякі рускі чалавек, роўна як і беларускі, і ўкраінскі, заклапочаны тым, каб захоўваць добрасуседства са сваімі бліжэйшымі дзяржавамі, тым больш бліжэйшымі сваякамі ў гісторыі геапалітычнага будаўніцтва.

**«НН»: Вы ўспрымаеце паводзіны футбольных фанатаў як праяву выхаду Беларусі з-пад расійскага ўплыву?**

**ЗП:** Гэта сведчанне таго, што частка маладых людзей у Беларусі інфікаваная той жа самай сыроваткай, якой была інфікаваная і частка ўкраінскай моладзі. Асноўнай мэтай гэтага з'яўлялася стварэнне канкрэтнага віду і тыпу маладога чалавека — па сутнасці, антырускага, чалавека, якому доказана, што Расія з'яўляецца спрадвечным ворагам Украіны, як і Беларусі. І шлях развіцця Беларусі, як і Украіны — гэта шлях адрозны ад Расіі, прычым не пуцінскай Расіі, а Расіі як такой, некуды ў міфічную Еўропу. І марудныя, паступовыя, безупынныя разбурэнні на сапраўдных, але часцей за ўсё падманлівых падставах нейкіх сумесных супольных пунктаў — супольных перамог, супольных рашэнняў, супольнай гісторыі. Натуральна, у любых народаў, якія пражывалі ў адным грамадстве, ёсць нейкія складаныя моманты. Безумоўна, гісторыя поўная трагедый, інтрыг... Але калі сумесныя жыццё і будаўніцтва — дзяржаўнае, культурнае — выстаўляецца ў якасці бясконцай вайны Расіі супраць Беларусі, калі фальсіфікуецца сумесная гісторыя, атрымліваем такі эфект. З аднаго боку, гэта выгадна квазіліберальнай інтэлігенцыі, для якой сімвал веры — славутыя еўрапейскія каштоўнасці ў двукоссях. А з другога боку, гэтым можна інфікаваць маладых людзей, якія мала адукаваныя і мысляць на ўзроўні нейкіх штампаў і элементарных зыходных дадзеных: маскаляку — на гіляку, Расія — вораг, трам-парам-пам-пам...

**Захар Прылепін**

расійскі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1975 у Разанскай вобласці. Ваяваў у Чачні. Член Нацыянал-бальшавіцкай партыі. Лаўрэат дзясяткаў літаратурных прэмій. Аўтар кніг «Паталогіі», «Санькя» (гэта так адмыслова з «я» на канцы), «Грэх» ды іншых.



**«НН»: Вы супрацьпастаўляеце заходнія каштоўнасці, якія спрабуюць прышчапіць у Беларусі, расійскім, якія Вы хацелі б бачыць у нас…**

**ЗП:** Пачакайце. Гаворка вядзецца пра фальсіфікацыю нашай супольнай гісторыі. І спробы зрабіць з беларуса, з маладога ў першую чаргу, чалавека антырускага, чалавека, які скіраваны на разлад з нашай краінай. Я не кажу, што ў нас ёсць прыўкрасныя рускія каштоўнасці: саборнасць, кансерватыўнасць і іншы праваслаўны мілітарызм. А вось там у Еўропе — нашэсце геяў. Канечне, мне хацелася б, каб у славянскіх народаў, якія ўваходзілі ў склад Расіі, за выключэннем Польшчы, былі супольныя інтарэсы.

**«НН»: Вы прапанавалі «заганяць тоны грантаў» з Расіі для развіцця культурнага супрацоўніцтва, каб «задушыць крыніцы польскай і іншай інфармацыі». Каб насаджваць тут расійскую культуру?**

**Працяг на старонцы 4.**

Аляксандр Лукашэнка прызначыў новага кіраўніка Камітэта дзяржкантролю. Ім стаў 60-гадовы **Леанід Анфімаў**. «НН» прапануе цікавыя факты з біяграфіі чыноўніка.

# Ад пастуха да галоўнага кантралёра краіны

### Ва ўніверсітэт пайшоў за кампанію

Леанід Анфімаў нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сіма Юр'еў-Польскага раёна Уладзімірскай вобласці (Расія). Кажа, што пачынаў працаваць пастухом у вёсцы. Справа ў тым, што пасля 10 класа ён не паступіў ва ўніверсітэт і з'ехаў да бабулі ў вёску, дзе трэба быў пастух. «Рабіць не было чаго, боўтаўся на канікулах. Пасвіў 30 коней і 20 жарабятаў», — расказваў Анфімаў.

Пасля пайшоў працаваць на завод грамадзянскай авіяцыі ў Мінску, быў электрамеханікам. Скончыў Політэхнічны інстытут. «Не таму, што я хацеў быць металургам, але мой аднакласнік угаварыў паступаць разам. Сказаў мне, што праз пяць гадоў пасля размеркавання мы станем дырэктарамі заводаў», — расказваў сп.Анфімаў. Па размеркаванні ён трапіў на МАЗ. Служыў у войску афіцэрам у Мар'інай Горцы.

«Урэшце мяне запрасілі ў Заводскі райкам партыі ў прамыслова-транспартны аддзел. З гэтага і пачаўся кар'ерны ўзлёт», — дзеліцца Анфімаў.



Далей была праца ў Мінгарвыканкаме. З красавіка 2006 Анфімаў — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. У снежні 2010 стаў намеснікам старшыні КДК.

### Быў сябрам Грамадзянскай партыі

У пачатку 1990-х Леанід Анфімаў стаяў ля вытокаў стварэння Грамадзянскай партыі (якая ў будучыні пераўтворыцца ў АГП). Анфімаў, дарэчы, разам з сённяшнім старшынёй Мінаблвыканкама Сямёнам Шапірам, уваходзіў у Нацыянальны камітэт партыі.

Тагачасны сустаршыня Грамадзянскай партыі Васіль Шлындзікаў кажа: «Толькі добрае магу сказаць. Чалавек заўсёды быў перадавых поглядаў. Ён рынначнік, ліберал. Праўда, я ўжо шмат гадоў з ім не бачыўся і не размаўляў. Пры ім Камітэт дзяржкантролю не павінен пераўтварацца ў зброю супраць няўгодных».

Дарэчы, калі Анфімаў увайшоў у Грамадзянскую партыю, ён ужо працаваў у Мінгарвыканкаме. У той час яшчэ рэальна было сумяшчаць сяброўства ў апазіцыйнай партыі і чыноўніцкую працу. «Я не памятаю, каб ён пісаў заяву на выхад ці рабіў нейкія гучныя заявы. Хутчэй за ўсё, ён па-ранейшаму лічыцца сябрам АГП», — кажа сп.Шлындзікаў.

### Атрымаў участак у Вяснінцы

Не так даўно чыноўнік атрымаў участак для будаўніцтва ў мінскім элітным мікрараёне Вяснінка. Гэта ўсяго за кіламетр ад Драздоў, на беразе мясцовага вадасховішча. Аднак будоўлю ён пакуль што не пачынаў.

Цяпер сям'я Анфімава жыве ў трохпакаёўцы на вуліцы Козыраўскай, недалёка ад Чэрвеньскага рынка.

Жонка новага старшыні КДК Вера Анфімава робіць дабрачынныя ахвяраванні на аперацыі дзецям.

### Прадказваў падзенне Амерыкі

У 2011 годзе, у самы разгар беларускага валютнага крызісу, Леанід Анфімаў у праграмнай публікацыі ў «Советской Белоруссии» паспрабаваў адказаць на глабальныя пытанні, што робіцца ў сусветнай эканоміцы. Для Анфімава было відавочна, што ўсе негатыўныя тэндэнцыі ідуць з ЗША. А ў процівагу ставіўся азіяцкі аўтарытарны капіталізм кітайскага кшталту.

Анфімаў заклікаў сусветную супольнасць «не дапусціць палітычны і эканамічны катаклізм планетарнага маштабу, які выкліча падзенне Амерыкі. Занапад гэтай імперыі ўжо пачаўся», — выказваў меркаванне чыноўнік.

Анфімаў параўнаў ЗША з Рымскай Імперыяй, Персіяй, Залатой Ардой, Аўстра-Венгрыяй, Вялікабрытаніяй пачатку XX ст. Пра СССР ён сціпла змаўчаў.

**Зміцер Панкавец**

# Прыхільнік беларускай мовы стаў мэрам Брэста

Старшынёй Брэсцкага гарвыканкама прызначаны **Аляксандр Рагачук**. Раней ён быў кіраўніком Маскоўскага раёна горада.

49-гадовы Аляксандр Рагачук стаў вядомым падчас працы галоўным ідэолагам Брэстчыны. Тады былы вайсковец увёў абавязковы беларускамоўны дзень у арганізацыі. Па серадах яго ны аддзел размаўляў толькі па-беларуску. «Мы ж працуем з наведвальнікамі, у тым ліку з беларускамоўнымі пісьменнікамі, журналістамі, прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі... Родную мову мы ведаем! Я, напрыклад, беларускую школу скончыў. Але казаць з нязвычкі цяжкавата. Таму вырашылі раз на тыдзень размаўляць паміж сабой па-беларуску. Каб лепей размаўляць, для практыкі! І я, напрыклад, няўтульна сябе адчуваю, калі не магу правільна адказаць па-беларуску. Бо гэта нават правіла добрага тону», — казаў ён «Камсамольскай праўдзе».

**Ягор Марціновіч**



# Кандрацьеў у адстаўцы

«Раз выніку няма — трэнер павінен сысці. Я абяцаў — я сыду. Але футбалісты з іншым трэнерам гуляць па-іншаму не стануць. Мы да гэтага ішлі 25 гадоў. Наш юнацкі футбол усё прайграе. Калі мы хочам нешта яшчэ... Мы ўжо адсталі амаль назаўжды ад вядучых краін. А Славакія... Не супер каманда, а мы ўжо і ад іх адстаем. Любы трэнер свету не навучыць за тры дні нашых футбалістаў гуляць у футбол», — сказаў галоўны трэнер зборнай Георгій Кандрацьеў.

Румас адстаўку Кандрацьева прыняў.

Зараз федэрацыі давядзецца шукаць новага настаўніка.

# Усім ляжаць тварам уніз!

Да Беларусі дайшло **незвычайнае захапленне** — планкінг, ці мастацкае ляжанне на звычайных і не вельмі паверхнях.

На мінулым тыдні інтэрнэт-карыстальнікаў павесялілі фотаздымкі з Баранавічаў. На іх шэраг маладых людзей ляжыць тварамі ўніз па ўсім горадзе: на прыступках гандлёвага цэнтра, на падлозе крамы і нават на пешаходным пераходзе. Але гэта былі не мясцовыя п'янтосы ці гарадскія вар'яты. Баранавіцкая моладзь проста далучылася да сусветнага захаплення планкінгам.

Назва гульні паходзіць ад англійскага «plank» (дошка). Сутнасць яе вельмі простая. Трэба легчы тварам уніз, выпрастаць ногі, выцягнуць рукі ўздоўж тулава і пачакаць, пакуль нехта з вашых сяброў зробіць фотаздымак. Вось і ўсё. Чым незвычайнейшая паверхня, на якой ляжыць планкер, тым лепш.

Бацькамі планкінга называюць англічан Гэры Кларксана і Крысціяна Лэнгдана, якія займаліся ляжаннем яшчэ ў канцы 90-х. Але ж масавую папулярнасць з'ява набыла ў 2007 годзе, калі ў Фэйсбуку была створана суполка аматараў планкінга. Высветлілася, што прыхільнікаў у незвычайнага баўлення часу нямала. Па невядомых прычынах асаблівую папулярнасць планкінг набыў у Аўстраліі.

Па вялікім рахунку, планкінг — нешта сярэдняе паміж флэшмобам і перформансам. Яго аматары ляжалі на слупах, паліцэйскіх аўтамабілях, у жывым эфіры тэлевізійных перадач. Планкеры знайшліся нават сярод астранаўтаў NASA, якія зладзілі акцыю ў бязважкасці.

**Улад Швядовіч**


INTEX-PRESS

# «Расіі трэба прысутнічаць у Беларусі»

Працяг са старонкі 3.

**ЗП:** Патрэбна ўзаемавыгаднае культурнае супрацоўніцтва развіваць. І гэтыя гранты могуць быць скіраваны на падтрымку беларускай культуры, на развіццё рэальнай гісторыі нашага суменага дзяржаўнага будаўніцтва, нашай сумеснай дзейнасці ў гістарычнай перспектыве. А можна зусім гэта не закранаць. Можа быць супрацоўніцтва ў тэатральнай, кінематаграфічнай сферах, якія ніяк не тычацца «рускага свету». Расіі трэба прысутнічаць, безумоўна, прыносячы адпаведны кантэкст нашага сумеснага жыцця, падмяняючы ім той найноўшы антыгістарычны кантэкст, які прыносіцца з Захаду. А не выціснуць беларускую культуру і замяніць яе рускай.

**«НН»: А такое шчыльнае ўзаемадзеянне не прывядзе толькі да падмены антырасійскіх настрояў антыеўрапейскімі?**

**ЗП:** Я не ведаю, што вы разумееце пад антыеўрапейскімі настроямі. Расія ў пэўным выглядзе і ёсць захавальніцай пэўных еўрапейскіх настрояў. Сваёй класічнай літаратурай, музыкай. Гэта і ёсць старая, добрая Еўропа. Калі маюцца на ўвазе найноўшыя тэндэнцыі апошніх дзесяцігоддзяў, я не ўпэўнены, што гэта еўрапейская каштоўнасці. Калі вы лічыце, што расійскія каштоўнасці — гэта прыніжэнне чалавека чалавекам, калючы дрот, татальны ГУЛАГ і штодзённае маленне правадыру, то я гавару пра іншае. Я гавару пра спакойнае, не істэрычнае ўспрыняцце нашай гісторыі.

**«НН»: Вы Беларусь разглядаеце як суверэнную дзяржаву?**

**ЗП:** Разглядаю як суверэнную дзяржаву... У мяне не выклікае душэўнага задавальнення наша размова. Зразумела, што вы маеце на мэце за кожным вашым пытаннем. Калі вам нешта не падабаецца ў маіх тэкстах, парэжце іх на кавалкі і зрабіце з гэтых кубікаў патрэбную вам карцінку. Хлопцы, у Еўропу — дык у Еўропу. Я размаўляю з тымі беларусамі, якія разумеюць, што я кажу. Калі ёсць іншы пункт гледжання — дэмакратыя, наперад. Не будзем даводзіць гэта да абсурду.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

# Інтэграцыя па графіку Пуціна

Парашэнка не прыляцеў на Мінскі саміт СНД, а Беларусь такі **ратыфікавала** Дамову аб Еўразійскім саюзе.

На мінулым тыдні Мінск прымаў саміт СНД, падчас яго таксама адбылося пасяджэнне Вышэйшай еўразійскай эканамічнай рады.

Галоўнай тэмай для размоваў стала адсутнасць на сустрэчы кіраўнікоў постсавецкай прасторы Пятра Парашэнкі. У тэлефоннай размове з Лукашэнкам ён выбачыўся за тое, што не можа прысутнічаць, і папрасіў Лукашэнку давесці ўкраінскую пазіцыю.

«З такім рашэннем Парашэнкі вельмі цяжка згадзіцца. Нават у самых аддаленых кішлаках ведаюць, што здарылася ва Украіне, і ўсе чакаюць, калі гэтае ненатуральнае супрацьстаянне скончыцца. Таварыш... Гаспадзін Парашэнка раздвойваецца, напэўна? І не можа даць сабе справаздачу, ці павінна Украіна быць у складзе СНД», — рэзка раскрытыкаваў Парашэнку прэзідэнт Узбекістана Іслам Карымаў.

«На мой погляд, не Карымаў мае права нечым упікаць Парашэнку, — кажа палітычны аналітык Раман Якаўлеўскі. — Варта нагадаць, што Узбекістан, напрыклад, так і не стаў сябрам АДКБ. Узбекістан віхляецца то ў адзін бок, то ў іншы.

Што тычыцца адсутнасці Парашэнкі, то яна была натуральнай. Падчас ваеннага канфлікту ва Украіне гэтая арганізацыя ніяк сябе не праявіла. СНД працягвае заставацца інструментам палітыкі Крамля на постсавецкай прасторы. Па-другое, зусім хутка Парашэнка сустрэнецца з Пуціным у Мілане, думаю, ён проста не хацеў накаляць сітуацыю перад гэтым спатканнем».

Іншым цікавым момантам саміту была перапалка паміж прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным і кіраўніком Малдовы Мікалаем Цімафці. Расія незадаволеная тым, што Малдова выбрала курс на інтэграцыю з Еўрасаюзам.

«Я не выключаю, што найперш Украіна, але і Малдова могуць выйсці са складу СНД. Некаторыя палохаюць, што краіны шмат чаго згубяць у выніку сумесных падпісанняў дамоваў у рамках СНД. Аднак, як сведчыць прыклад Грузіі, гэтыя дамовы без асаблівага шуму можна падпісаць на двухбаковых асновах», — лічыць сп.Якаўлеўскі.

Што тычыцца сустрэч у рамках еўразійскай інтэграцыі, то напярэдадні Беларусь ратыфікавала Дамову аб Еўразійскім эканамічным саюзе. Хаця перад гэтым найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі пагражала затармазіць працэсы, бо краіна панясе вялікія страты з-за падатковага манеўра Расіі ў нафтавай галіне. Аднак пасля таго, як Расія згадзілася кампенсаваць гэты мільярд стратаў, і ратыфікацыя прайшла імгненна.


Лукашэнка не супярэчыў Пуціну на саміце ў Мінску.

«Увогуле, можна казаць, што еўразійская інтэграцыя праходзіць па графіку Пуціна, — кажа аналітык Раман Якаўлеўскі. — Усе гэтыя размовы, што Назарбаеў з Лукашэнкам за спінай Пуціна будуць раскладаць нейкія пасьянсы, не маюць пад сабой асноваў. Шмат падкрэсліваецца, што саюз ствараецца на аснове роўнасці. Але я хачу нагадаць, што роўнасць — не значыць тоеснасць. Пакуль у Расіі будзе магчымасць «пернікамі» ўлагоджваць Беларусь — гэта будзе працягвацца. Фактычна, Расія пагадзілася на падтрымку Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах — 2015».

Цяпер старшынства СНД пераходзіць да Казахстана. З вуснаў Назарбаева прагучала прапанова аб новай канцэпцыі СНД. Праўда, пакуль ніхто не ведае, што хаваецца за гэтымі словамі.

**Зміцер Панкавец**

## Партыя БНФ падтрымае на выбарах Мілінкевіча

З'езд **пераабраў старшынёй** Аляксея Янукевіча.

Галоўнай інтрыгай XVI з'езда Партыі БНФ было зусім не абранне старшыні, бо ніхто не захацеў складаць канкурэнцыю Аляксею Янукевічу, за якога прагаласавала 113 з 133 дэлегатаў. Партыя БНФ, якая адмовілася на гэты раз вылучаць уласнага кандыдата, вырашала, каго ж яны гатовыя падтрымаць на прэзідэнцкіх выбарах — 2015.

Агулам удзельнікам з'езду былі прапанаваны спіс з пяцю імавернымі кандыдатамі, якія ўпісваюцца ў патрабаванні БНФ. У выніку закрытага галасавання сілы размеркаваліся так: Аляксандр Мілінкевіч — 68 галасоў, Мікалай Статкевіч — 21, Алена Анісім — 20, Уладзімір Някляеў — 14, Анатоль Лябедзька — 1.

«З аднаго боку, дэмакратычныя сілы з вядомых прычынаў аслабленыя. З іншага боку, вырашаецца лёс Беларусі, — сказаў Мілінкевіч. — На нас ляжыць вялікая адказнасць за тое, што будзе казаць і адстойваць адзіны кандыдат. Ён мусіць перадусім адстойваць незалежнасць. У выбарчай кампаніі—2015 слова «незалежнасць» мусіць быць ключавым».

З іншых цікавостак: у шэрагах Партыі аднаўлены былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Алесь Міхалевіч. Хаця старшыня Аляксей Янукевіч і быў супраць.

**ЗП**


**У БНФ новы намеснік — Вольга Лагвіновіч**

Ёй 36 гадоў. Разам з мужам, таксама фронтаўцам Іванам, яны жывуць у Маладзечне. Гадуюць двух дзетак. Вольга неадназарова ўдзельнічала ў мясцовых, парламенцкіх выбарчых кампаніях. Займалася назіраннем за выбарамі. Разам з мужам выдаюць бюлетэнь «За Маладзечна». Па адукацыі — педагог-псіхолаг.

## Сцісла

### Лідар баевікоў ДНР у цяжкім стане

У ноч на 13 кастрычніка невядомыя здзейснілі замах на лідара г.зв. руху «Наваросія» Паўла Губарава. Паведамляецца, што яго аўтамабіль абстралялі на трасе Растоў — Данецк на тэрыторыі самаабвешчанай ДНР. Цяпер Губараў у цяжкім стане.

### «Беларусь не разглядае сябе ў адрыве ад Расіі»

«Мы не разглядаем сябе ў адрыве ад Расійскай Федэрацыі, толькі разам, у сумеснай дзейнасці. Толькі ў тым выпадку, калі мы будзем супрацьстаяць усякім пагрозам разам, мы здольныя выстаяць і выжыць», — сказаў Лукашэнка на сустрэчы з губернатарам Свярдлоўскай вобласці Яўгенам Куйвашавым.

### На вуліцах Віцебска зноў раздаюць расійскія сцяжкі

«Я вырваў з рук глуханямога сцяжок нашых усходніх суседзяў і са словамі «Тут табе не Расія» шпурнуў сцяжок на зямлю», — паведаміў віцебскі чытач сайта «Хартыя-97». Сцяжкі раздавалі недалёка ад віцебскага «Макдональдса».

### Маралес — зноў прэзідэнт

Прыхільнікі дзейнага прэзідэнта Балівіі Эва Маралеса і яго партыі «Рух да сацыялізму» пачалі святкаваць перамогу свайго кандыдата на ўсеагульных выбарах, што адбыліся ў нядзелю. Гэта ўжо трэці запар прэзідэнцкі тэрмін Эва Маралеса — першага ў гісторыі краіны прадстаўніка карэннага народа Балівіі, які стаў прэзідэнтам.

**ЗП**




## Фотафакт

### З жыцця здраднікаў: маёнтак Азарава пад Масквой

Сям'я збеглага экс-прэм'ер-міністра Украіны і лідара Партыі рэгіёнаў Мікалая Азарава валодае асабняком у элітным Падмаскоўі. У адрозненне ад усіх папярэдніх паведамленняў пра той ці іншы аб'ект, які нібыта купілі ўцекачы-карупцыянеры, гэты выпадак пацверджаны дакументальна.

Уладанне Азарава месціцца ў клубным пасёлку «Маналіт» — гэта Маскоўская вобласць, Істрынскі раён, вёска Вароніна, 26 кіламетр Нарыжскай шашы.

Сёння дом у гарадку «Маналіт» з надзелам плошчай 40 сотак, — такі ж, як у Азарава, можна купіць за 8,5 мільёна даляраў.

Умовы, у якіх жыве сям'я Азарава, мала адрозніваюцца ад ладу жыцця ва Украіне — яны ізаляваныя ад рэальнага жыцця высокім плотам элітарнасці. «На тэрыторыі пасёлка свая школа, дзіцячыя пляцоўкі, прагулачныя зоны, сажалка, храм, малапавярховы дом з кватэрамі для персаналу», — апісваюць гарадок «Маналіт» прадаўцы нерухомасці.

**«Украінская праўда»**

## Цытата

### «Ну што, бабуля, паўдзельнічала ў рэвалюцыі?»



«Я супраць таго, каб такія людзі, як Сафія Ратару, якія адкрыта заклікаюць да знішчэння нашай краіны, якія адкрыта падтрымліваюць хунту на захадзе Украіны,араблялі грошы ў Расіі, — заявіў дэпутат Думы Віталь Мілонаў. — Іх камерцыйная дзейнасць на тэрыторыі Расіі немэтазгодная. Зразумела, што Ратару трэба падтрымліваць свой імідж і славу. Таму яна шукае нейкія новыя варыянты такой падтрымкі — ну вось, у рэвалюцыі паўдзельнічала, бабуля. Паўдзельнічала — добра! Але цяпер прыязджай у Расію толькі як прыватная асоба. Для заробляння грошай у Расію цябе ніхто не пусціць. У нас шмат зорак сваіх! Будзем Віку Цыганову слухаць!»

# Топ-5 самых дарагіх дамоў сталіцы

**Квадратны метр у мінскіх навабудах — ад $1200 да $3900.**

Будаўнічы бум у Беларусі патроху змяняецца зацішшам. Галіна так і не ачуняла пасля эканамічнага крызісу. Даступных крэдытаў на нерухомасць мала (найтаннейшыя камерцыйныя — пад 30% гадавых), а змены ў дзяржаўнай палітыцы выціскаюць прыватных забудоўшчыкаў з гульні.

Новыя ўчасткі пад будаўніцтва атрымліваюць нямногія кампаніі. Затое шчырые дзяржаўны МАПІД, ушчыльняючы сталіцу сваімі «панэлькамі». Бізнэс атрымліваецца прыбытковы, і кампанія ўваходзіць у пяцёрку самых паспяховых ААТ краіны.

У дамах МАПІДа будуюцца тыя, хто дачакаўся сваёй чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоваў. Але пры гэтым сёлета атрымліваюць кватэры мінчукі, якія стаяць у чарзе з 1989 года! Яны плацяць па $700—800 за квадратны метр.

Астатнія, не гатовыя чакаць чвэрць стагоддзя, вымушаныя будавацца па больш ых цэнах. Якія прапановы ёсць на сталічным рынку?

Сярод самых танных варыянтаў — камерцыйныя прапановы ўсё таго ж МАПІДа. Квадратны метр каштуе ад $1200, і маленькія кватэры знікаюць з продажу за некалькі дзён пасля апублікавання праектнай дэкларацыі. У прыватнікаў цана пачынаецца ад $1300—1400. Такія дамы таксама распрадаюцца хутка, чаго не скажаш пра дарагія прапановы, якія чакаюць свайго купца год за годам.

«Наша Ніва» прапануе пяць самых дарагіх навабудоўляў Мінска.



Ушчыльненне на праспекце Незалежнасці.



Недабудаваныя «Поры года».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Праект «Аквамарына».

## 1. «Поры года» (Кісялёва, 17)

Забудоўшчык — «Вытворча-інвестыцыйная група»
Квадратны метр — $3000

Дом на вуліцы Кісялёва будуюць ужо каля 10 гадоў! Бізнэсмен Сяргей Дзямчук узводзіў у Мінску некалькі элітных жылых комплексаў, але грошы дольшчыкаў прапалі. У выніку Дземчука нядаўна прысудзілі да васьмі гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Забудоўшчык запэўнівае, што сёлета дом нарэшце будзе здадзены ў эксплуатацыю. У ім каля 50 кватэр і пентхаўсаў, з іх засталіся непрададзенымі каля трэціны. Паколькі метражы кватэр гіганцкія (ад 164 м²), самая танная каштуе каля $500 тысяч. І гэта за пустыя сцены!

Што можна атрымаць за такія грошы? У «Порах года» свая газавая кацельня, а таксама свідравіна глыбінёй 480 м для забору вады. На абгароджанай тэрыторыі, апроч дома, пабудуюць спартыўную залу, басейн і тэнісны корт.

Чаму дом назвалі «Поры года»? Кожны з чатырох пад'ездаў афармляюць у адпаведнасці з адным з сезонаў.

## 2. «Ля Траецкага» (Старажоўская, 6)

Забудоўшчык — «Трайпл».
Квадратны метр — $3000

25-павярховы дом быў здадзены ў эксплуатацыю яшчэ ў 2012 годзе, але некаторыя кватэры дагэтуль не прададзеныя. «Трайпл» шукае яшчэ каля 20 новых гаспадароў.

У кватэрах усталяваная сістэма «Разумны дом», якая кіруе электрычнасцю, водазабеспячэннем і безліччу іншых датчыкаў.

Пра гэты дом і яго жыхароў пісалася неадназначна. Па меркаванні архітэктараў, «Ля Траецкага» катастрафічна псуе выгляд гістарычнай часткі Мінска. Затое забудоўшчыку, кампаніі мільянера Юрыя Чыжа, дом прынёс добры прыбытак. Па вечарах дом выглядае чорнай сцяной — у ім усё яшчэ не жыве амаль ніхто з уласнікаў элітнай нерухомасці.

## 3. «Аквамарын» (Філімонава/ Парніковая)

Забудоўшчык — «Тапас»
Квадратны метр — $2350—3900

Кампанія «Тапас» пакрысе становіцца найбуйнейшым прыватным забудоўшчыкам Мінска. Поспех звязваюць з асобай Паўла Белага — нападаючага прэзідэнцкай хакейнай каманды і намесніка дырэктара «Тапаса».

«Аквамарын» — адзін з жылых комплексаў, якія будуюцца непадалёку ад Нацыянальнай бібліятэкі. Яго збіраюцца здаць у трэцім квартале 2015 года.

У склад комплексу ўваходзяць два дамы вышынёй 6 і 9 паверхаў. Яны... дугападобныя. Арыгінальная задума архітэктараў можа стаць галаўным болем для стваральнікаў інтэр'ераў.

Яшчэ адна адметнасць — выгляд шасціпавярховіка. Фактычна, гэта тры асобныя будынкі, пакладзеныя на агульную платформу. Пад ёй спраектаваны падземны паркінг.

Галоўная перавага «Аквамарына» — блізкасць да вады і лесу. Прычым на рэндарах нават бачны пляж на беразе канала.

## 4. «Славянскі квартал» (Пераможцаў, 27—29)

Забудоўшчык — «Знешэканамбуд»
Квадратны метр — $2200—3400

Тры вежы насупраць новага музея Вялікай Айчыннай вайны расейцы пачалі будаваць яшчэ ў 2008 годзе. Цяпер яго ных 350 кватэраў патроху засяляюцца, а апошнія непрададзеныя выстаўленыя на продаж.

Паколькі месца для стаянкі аўтамабіляў гаспадароў няма, выратаваннем становіцца падземная паркоўка, але цана машына-месца дасягае $33 тысяч.

## 5. Праспект Незалежнасці, 85Б/В/Г

Забудоўшчык — «Белрэканструкцыя»
Квадратны метр — $1800—3000

Гэта тыповы прыклад ушчыльнення старых мінскіх кварталаў. У двор паміж вуліцай Кузьмы Чорнага і праспектам Незалежнасці ўлезла некалькі васьміпавярховікаў. Першы з іх заселены ўжо даўно, цяпер распрадаюцца кватэры ў другім і будуецца трэці.

Для больш прывабнай рэкламы дамы аднесеныя да цэнтральнага праспекта, хоць знаходзяцца і на адлегласці ад яго. Затое і шум ад дарожнага трафіку не далятае.

**Ягор Марціновіч**

# Курс еўра ўпадзе да $0,95?

Да канца 2017 курс еўра да даляра можа ўпершыню за больш чым дзесяць гадоў упасці ніжэй за парытэт і скласці 0,95 даляра ЗША. Такі прагноз апублікаваў нямецкі Deutsche Bank.

У тым, што ў найбліжэйшыя два гады еўра працягне падаць у дачыненні да даляра, сыходзяцца ўсе аўтарытэтныя еўрапейскія і амерыканскія банкі. Аднак прагноз найбуйнейшага банка Германіі на сённяшні дзень самы песімістычны з агучаных.

Аналітыкі брытанскага банка HSBC больш аптымістычныя, прадказваючы 1,19 даляра за еўра да канца 2015 года. Іх калегі з Barclays лічаць, што курс знізіцца да 1,10. Амерыканцы з Morgan Stanley прадраюць 1,14 даляра за еўра ў 2015 годзе. Найбольш жа блізкі да меркавання Deutsche Bank прагноз экспертаў Goldman Sachs, якія лічаць, што да зімы 2017 абедзве валюты дасягнуць парытэту.

**ЯМ**





## Колькі зарабляюць беларусы і суседзі?

| | Заробак «брудны мі» | Заробак «чыстымі» | Актуальнасць |
|---|---|---|---|
| Польшча | $1237 | $891 | Жнівень 2014 |
| Латвія | $1036 | $729 | Чэрвень 2014 |
| Літва | $937 | $728 | Другі квартал 2014 |
| Расія | $874 | $760 | Жнівень 2014 |
| Беларусь | $614 | $534 | Жнівень 2014 |
| Украіна | $264 | $212 | Жнівень 2014 |

# Інфляцыя ў Крыме абганяе заробкі

Федэральная служба дзяржаўнай статыстыкі Расіі ўпершыню ўключыла ў свае справаздачы дадзеныя пра Крым.

Паводле падлікаў, сярэдні заробак у Крыме ў жніўні 2014 года склаў 15 187 расійскіх рублёў. Гэта каля $421 у эквіваленце.

Цяпер звернемся да ўкраінскай статыстыкі. У жніўні 2013 года заробак на паўвостраве складаў 2934 грыўні. Па тагачасным курсе гэта $367.

Такім чынам, рост заробкаў пасля акупацыі Крыма Расіяй склаў 14,7%.

Расійская статыстыка праводзіць і іншыя лічбавыя змены. Напрыклад, у жніўні 2014 года грузаабарот склаў 34% ад леташніх паказчыкаў, пасажыраабарот грамадскага транспарту — 50%, аб'ём рознічнага гандлю — 72%. У гэтым жа месяцы колькасць стратных арганізацый дасягнула 62% — і гэта ў курортны сезон!

Што вырасла, дык гэта цэны. Гадавая інфляцыя ў жніўні дасягнула 24,1%.

**ЯМ**

# Расслабіліся — і не прачнуліся

У сталіцы ад спайсаў загінулі яшчэ **двое маладых хлопцаў**.

Лік загінулых ад спайсаў сёлета пайшоў на другі дзясятак — ведама пра 13 смерцяў. І больш за 700 чалавек трапіла з перадозам у бальніцы. Праўда, невядома, колькі з іх здолелі вярнуцца да паўнавартаснага жыцця. Такая цана танных, але нелегальных наркотыкаў, хоць прадаўцы спайсаў іх папулярызуюць менавіта як дазволеныя.

На мінулым тыдні хваля чаду «накрыла» маладых рабацяг. Вырашылі расслабіцца ў пакоі інтэрната. Там іх і знайшоў раніцай 10 кастрычніка сусед.

Хлопцы, 1992 і 1995 гадоў нараджэння, працавалі ў Мінску рабочымі на прадпрыемствах. Жылі разам у сталічным інтэрнаце на вуліцы Казінца. Спайс купілі праз інтэрнэт. Забралі сумесь для палення ў прызначаным месцы — закладцы. Што было далей, разбіраюцца следчыя. Але яны не рэзалі сабе вены, не выкідваліся з вокнаў, як здаралася ў іншых выпадках пасля ўжывання спайсаў. Нібы заснулі і не прачнуліся — перадоз.

Аператыўнікі хутка вылічылі інтэрнэт-краму, праз якую загінулыя купілі спайс. І затрымалі дваіх. Праца была наладжана з рэгіёна: інтэрнэт-гандаль ішоў са Светлагорска. 21-гадовы светлагорац прымаў замовы, сачыў за аплатай і паведамляў месцы знаходжання тавару. А ягоны 22-гадовы калега ў Мінску вырабляў сумесі для палення і адносіў іх у закладкі. На кватэры ў апошняга і канфіскавалі 25 грамаў спайсаў і абсталяванне для іх вырабу. Па заключэнні экспертаў, у сумесях для палення, канфіскаваных у мінчука, утрымліваецца асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва MBA(N)-CHM.

Цяпер абодвум пагражае немалы турэмны тэрмін: за смерць па неасцярожнасці (да 5 гадоў) і за незаконны зварот асабліва небяспечных псіхатропаў (ад 8 да 13 гадоў).

**Сяргей Макарэвіч**




**Наркотык у чыпсах**

У рэйсавым аўтобусе Варшава—Мінск на мінулым тыдні знойдзены чыпсы з наркотыкам. Памежнікі сумесна з мытнікамі правялі надгляд салона. На верхніх багажных паліцах знайшлі дзве пачкі бульбяных чыпсаў: «Канабіс чыпс» і «Гашыш чыпс», якія, як мяркуецца, утрымлівалі наркатычнае рэчыва. Увагу выклікалі надпісы на ўпакоўках: у складзе «Гашыш чыпс» утрымліваецца 30% мукі канопляў, у «Канабіс чыпс» — 1,5% лісця канопляў. Чыпсы вагой па 75 грамаў выраблены ў Чэхіі. Прызначана экспертыза.

# Дзяўчына пасварылася з каханкам — і сіганула ў акно

Вырашыла спусціцца ўніз **па прасціне**.

З акна шостага паверха пакazалася прасціна, па якой нехта пачаў спускацца. Такую карціну назіралі відавочцы ўначы 9 кастрычніка ў двары сталічнага шматпавярховіка па вуліцы Алтайскай. Адразу і не зразумелі, каго трэба было выклікаць: міліцыю ці ратавальнікаў. Але пачуўся дзявочы голас, які клікаў на дапамогу, — патэлефанавалі ў МНС.

Пакуль ратавальнікі ехалі, дзяўчына паспела адолець два паверхі ўніз і стала на балкон. І ўвесь час не адпускала прасціну. Якіх высілкаў каштавала гэта ёй! А вось аперацыя па спусканні на зямлю аказалася не з лёгкіх. Як і любы двор у спальным раёне, гэты быў застаўлены аўто жыхароў. Ратавальнікам давялося паставіць на зямлі пнеўматычную падушку на выпадак, калі дзяўчына сарвецца. Для праезду спецтэхнікі выклікалі ДАІ. Інспектары мусілі пабудзіць уладальнікаў прыпаркаваных машын. Пакуль вызвалялі праезд, ратавальнікі пры дапамозе штурмавой лесвіцы дзяўчыну паднялі на балкон пятага паверха. І калі ўжо пагрозы яе жыццю не было, а праезд даішнікі расчысцілі, змагла пад'ехаць спецтэхніка. Дзяўчыну спусцілі на зямлю на пад'ёмніку. А тая, ледзь ногі сталі на цвёрдую глебу, кінулася наўцёкі. Давялося наздаганяць, каб адвезці ў міліцыю. Свой учынак 26-гадовая ўраджэнка Магілёўшчыны патлумачыла жаданнем сысці ад маладога чалавека — пасварыліся. «Смеласці» ж надаў выпіты алкаголь.



**Кастусь Матушыч**

## У жаночым халаце на машыне без шынаў

Так віляйчук святкаваў навіну, што **стаў татам**.

Пагоня за сінім аўтамабілем пачалася ў Вілейцы ў ноч на 6 кастрычніка. Супрацоўнікі міліцыі гналіся за нецвярозым кіроўцам. У цэнтры горада на вуліцы Партызанскай кіроўца наскочыў пярэднімі коламі на бардзюр. І працягваў ехаць з голымі коламі, на адных абадах. Машына заіскрылася і загарэлася. Кіроўца з'ехаў на тратуар і спыніўся каля агароджы.

Калі мужчыну дасталі з машыны, яго выгляд здзівіў: парушальнік быў... у жаночым халаце. Высветлілася, што ён стаў бацькам і нападпітку паехаў святкаваць такую падзею, не падумаўшы не толькі пра магчымыя наступствы, але і пра выгляд.

Каб пагасіць легкавік, давялося выклікаць пажарных. Цяпер гора-бацьку чакае вялікі штраф і пазбаўленне правоў.

**Паводле «Рэгіянальнай газеты»**

### Вышук



**Знікла з працы**

58-гадовая Ала Хацкевіч 9 кастрычніка не вярнулася дадому з працы ў Мінску (вул. Казінца, 88). Прыкметы: рост 158 см, вочы зялёныя, валасы светлыя. Была апранута: светла-карычневае паліто, чорныя боты. Хто ведае месцазнаходжанне зніклай, звяртайцеся на: (033) 666-68-56.

**Збіў чалавека**

9 кастрычніка ў 6:40 на трасе Р43 Крычаў-Івацэвічы, каля в. Лянькі Слуцкага раёна, грузавік, які ехаў у бок Івацэвіч, наехаў на пешахода. Чалавек загінуў, а кіроўца з'ехаў. Мяркуецца, што грузавік DAF быў на расійскіх нумарах. Хто нешта ведае пра аварыю, звяртайцеся ў ДАІ Мінскай вобласці на: (017) 204-42-44, (029) 339-14-44.

### Сцісла

**Падпаліў сябе**

Раніцай у нядзелю, 12 кастрычніка, у Лідзе мужчына абліў сябе бензінам і падпаліў. З апёкамі галавы, шыі, грудзей ён змешчаны ў рэанімацыю. Мяркуецца, што хацеў здзейсніць акт самаспалення. Прычыны высвятляюцца.

**Рознае кіно любяць**

Дзесяцікласнікі з Віцебска паспрачаліся пракіно. Аднаму падабаліся расійскія фільмы, другому — амерыканскія. Каб не прыцягваць увагі да сваіх разборак у школе, пайшлі на кватэру. Там і пабіліся: 15-гадовы падлетак нанёс цяжкія цялесныя пашкоджанні 16-гадоваму.

У міліцыю звярнуліся медыкі, калі ў бальніцу паступіў збіты хлопец.

Чыё кіно аказалася мацнейшае, гісторыя маўчыць.

**Цягнік падбіў легкавік...**

ДТЗ здарылася ўначы 9 кастрычніка на чыгуначным пераездзе ў Смалявіцкім раёне, у раёне вёскі Шэметава (кірунак аэрапорта). На нерэгуляваным чыгуначным пераездзе сутыкнуліся аўтамабіль «Аўдзі-100» і грузавы цягнік. Цеплавоз атрымаў нязначныя пашкоджанні. У легкавушцы — тры трупы.



**... а легкавік — цягач**

А каля вёскі Заказінец Смалявіцкага раёна кіроўца «Фіята» ўрэзаўся ў седлавы цягач, што стаяў на ўзбочыне. У легкавушцы загінулі тры жанчыны і мужчына.

**Магазіншчыца інсцэніравала налёт**

На працягу некалькіх месяцаў у Мёрскім раёне прадавачка выкрадала розныя тавары з крамы. А каб схаваць нястачу, наўдала інсцэніравала крадзеж. Віну магазіншчыца прызнала і грошы сплаціла. Але суда не пазбегла: яе асудзілі на тры гады з адтэрміноўкай на два гады.

**Пасадзілі сяброў**

9 кастрычніка асудзілі дваіх сяброў за забойства ў Рэчыцы 19-гадовай Вікторыі. Аднаго прыгаварылі да 15 гадоў калоніі, другога — да 8. Аляксея прызналі вінаватым у забойстве, Вячаслава — у саўдзеле. Дзяўчыну яны забілі на Дзень святога Валянціна. Такім чынам хлопец вырашыў пазбавіцца ад каханай, якую разлюбіў. А тая хацела яго прывязаць да сябе, сказаўшы пра сваю выдуманую



цяжарнасць і роды («НН» №36).

**Нелегалы**

У Беларусі праваахоўнікі правялі акцыю «Нелегал». За чатыры дні выявілі 6 замежнікаў, якія знаходзяцца ў міжнародным вышуку. 188 вытурылі з Беларусі за парушэнне правілаў знаходжання ў нашай краіне. Яшчэ супраць 13 чалавек заведзены крымінальныя справы за парушэнне міграцыйнага заканадаўства.

**КМ**

# З 27 кастрычніка час у Беларусі будзе заўжды супадаць з маскоўскім

Беларусь не будзе пераходзіць на зімовы час следам за Расіяй. Аб гэтым паведамілі ў прэс-службе беларускага ўрада. Гэта выкліча поўнае дастасаванне беларускага часу да маскоўскага.

Рабочая група, у якую ўваходзілі прадстаўнікі Акадэміі навук і Мінаховы здароўя, прадставіла свае аргументы супраць гадзінных «манеўраў». Самы галоўны — стрэс для нашага арганізма праз перастройкі на новы час кожную вясну і восень. Ды і эканомія ад такіх пераменаў спрэчная.

Такім чынам, з апошніх выходных кастрычніка Польшчу мы будзем апярэджваць на дзве гадзіны, Літву, Латвію і Украіну — на гадзіну, а маскоўскі час цяпер заўсёды будзе супадаць з мінскім, хоць жывём мы нашмат заходней.

**АГ**

# Палескія вёскі ў аб'ектыве нямецкага вайскоўца

На інтэрнэт-аўкцыёне ebay **прадаюцца здымкі** часоў Першай сусветнай вайны.

На продаж выстаўлены асобныя здымкі альбома нейкага нямецкага вайскоўца, што праходзіў службу ў 1916—1918 гадах на Палессі. На фота адлюстраваныя выявы горада Берасце і сучасных палескіх вёсак Берасцейскай вобласці: Страдзеч, Забfroддзе, Хабовічы, Рухавічы, Зарэчка, Ягмінава. Галік, Ямнік, Выгода, Селішча, Дывін, Драгічын, Лепляўка, Дамачава.

Адметнасць здымкаў у тым, што на фота адлюстраваныя шмат будынкаў, могілак і храмаў, якія не захаваліся. Мы можам пабачыць побыт тагачасных палешукоў.

Кожны здымак невядомы жаўнер пазначыў подпісам на друкарцы. Відаць, што памяць пра тую вайну была для яго значнай. Прадавец палічыў першачарговы кошт аднаго здымка ў 5 еўра. Але каб сабраць усю калекцыю, давядзецца значна выдаткавацца.

Здымкі, што пакінулі нам вывы побыту нашых продкаў, хутчэй за ўсё не паўсталі б за часамі Расейскай Імперыі. Ні тэхнічных магчымасцяў, ні цікавасці да ўскрайкаў імперыі ў рускіх тады не было.




**Руслан Равяка, Баранавічы**

## У Амстэрдаме адкрыўся першы ў свеце «заапарк» мікробаў

Госці пры дапамозе адмысловага сканера змогуць даведацца, колькі і дзе мікробаў на дадзены момант **на іх целе**.

Экспанатамі гэтага музея, ці ўсё ж заапарку, з'яўляюцца мікробы, вірусы і іншыя віды мікрабіялагічнага жыцця. Яны зусім незаўважныя ў штодзённым жыцці, але на іх долю прыходзіцца дзве трэціны ад усяго аб'ёму жывой матэрыі планеты.

Музей атрымаў назву «Мікропія», а на яго стварэнне было выдаткавана каля 10 мільёнаў еўра. Знаходзіцца музей ля ад Каралеўскага заапарку Artis.

Заапарк мікробаў падобны да лабараторыі. Яго экспанаты паказаны на вялікіх экранах, падлучаных да мікраскопа. Наведвальнікі заапарку змогуць назіраць за жыццём бактэрый, якія знаходзяцца ў прабірках і кубках Петры. Размнажэнне мікраарганізмаў будзе адсочвацца пры дапамозе адмысловага трохмернага мікраскопа. Таксама ў заапарку прадстаўлена гіганцкая мадэль віруса Эбола.

Госці ўнікальнага заапарку змогуць даведацца з дапамогай спецыяльнага сканера, дзе і колькі мікробаў у дадзены момант знаходзіцца на іх целах. Закаханым работнікі ўстановы могуць паведаміць, колькі бактэрый яны перадалі адзін аднаму пры пацалунку.

**Лявон Максюта**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Дом на Плошчы Успамінаў

Сяргей Харэўскі, адзін з найлепшых знаўцаў мінскай гісторыі, яе духоўнай і матэрыяльнай спадчыны, падзяліўся ў Фэйсбуку здымкам сучаснай плошчы Незалежнасці 50-х гадоў. І спытаў: ці ж не прыгажэйшая яна была за тую, што мы бачым сёння?

Я ўгледзеўся ў здымак. І падумаў, што параўноўваць тую плошчу з сённяшняй не выпадае. Бо, насамрэч, плошчы сёння няма. Камусьці, магчыма, тое, што завецца плошчай Незалежнасці, лашчыць погляд шклянымі пухірамі са схаванага пад зямлёй камерцыйнага пекла. Але ці можа называцца плошчай бязлюдная пустэча? Бо плошчы ўтвараюцца ў гарадах дзеля таго, каб людзі адчулі подых вольнага паветра. Паветра на сённяшняй плошчы Незалежнасці хапае. Але волі няма...

У 50-х, адкуль з'явіўся згаданы здымак, як ні дзіўна, плошча была, хаця напалову яе сціскалі яшчэ дарэвалюцыйныя збудаванні, што ўратаваліся ад вайны, а пасярэдзіне стаяў шматпавярховы будынак, так званы «дом Кастравіцкай». На здымку бачна толькі ягоная частка. Але большасць каментароў якраз пра гэты дом і знакаміты па тым часе гастраном на ягоным першым паверсе. Нібыта людзі нечакана сустрэліся з даўнім знаёмым.

Я таксама не ўстрымаўся. «Дзякуй, Сяргей, — напісаў у сваім каментары, — нагадаў... І гастраном той, і пах селядцоў з бочак. Гэткі мінскі «Елісееўскі». А над гастраномам месціўся МЗС і жылі яго супрацоўнікі... Толькі вось таго, што было справа, на здымку няма. А справа стаялі яшчэ драўляныя хаты з агародамі і садамі. У адной з іх жыла Галя, аднакласніца. Пасля выпускнога вечара да раніцы праседзелі з ёй на лаўцы ля плота, пад язмінам. Дасюль памятаю, як дурэў ад ягонага паху...»



Што ж яшчэ дадаць да гэтага салодка-сумнага ўспаміну? Мусіць, пра бегавыя канькі з Нарвегіі, што ў спартова-дваровым ужытку называліся «нажамі». Уявіце сабе хваляванне хлопчыка, які ўсё свядомае дзяцінства адкатаўся на «снягурках», што прыкручваліся аборкамі ды драўлянай палачкай да валёнак, а зараз падымаецца па цёмнай жалезнай лесвіцы на апошні паверх загадкавага дома да матчынага знаёмага дыпламата, які з'язджае ў Маскву і прадае тыя канькі. Чаравікі аказаліся не па памеры, ціснулі нагу... Але што гэта ў параўнанні з поглядамі дзяўчат, калі ты, як сапраўдны канькабежац, наразаеш колы на катку на стадыёне «Харчавік» у парку Горкага, на той час ці не адзіным ў горадзе! Да таго ж, на нарвежскіх!

...Усё ж незвычайная, таямнічая з'ява — чалавечая памяць. Столькі важных, лёсавызначальных падзей адбываецца за жыццё, ажно эпахальныя зрухі, а памяць перш-наперш захоўвае нязначнае — пах селядцоў з бочак... жалезнай лесвіцы на апошні паверх... язміну пад першымі промнямі развітання з дзяцінствам...

Там, сярод язмінаў, стаяла недзе і хатка, у якой жыў Міхайла Станюта, вядомы мастак, бацька легендарнай Стэфаніі, дзед Аляксандра Станюты — журналіста, доктара філалогіі, пісьменніка і сябра цягам паўстагоддзя жыцця. На пачатку 2000-х Саша паказаў мне цудоўныя малюнкі алоўкам, якія дзед рабіў падчас нямецкай акупацыі і першых дзён пасля вызвалення. Гэта былі выявы розных людзей — малых і старых, жаўнераў і мінакоў... Сціплая, стрыманая, параненая душа горада таго часу.

Але чаму, скажыце, калі я ўзіраюся ў гэты здымак, памяць выкідае на паверхню не толькі малюнкі, што зразумела, але і мяккую шурпатасць зжаўцелай паперы, вобраз хаты, дзе яны маляваліся, нават зледзянелай сцежкі, па якой маленькі Саша тупаў праз плошчу да дзеда з вуліцы Талстога, дзе падчас акупацыі жыў у сваякоў?

Мо таму, што ад эпахальных падзей застаюцца календары, а са штодзённага і адыходзячага чалавечага жыцця — Душа.

Душа дома... плошчы... горада... краіны...

Яно, магчыма, і было неабходна — прыбраць «дом Кастравіцкай» і хаты, дзе жылі мая аднакласніца Галя і мастак Міхайла Станюта, дзеля «самай вялікай у Еўропе» плошчы. Хаця ўжо на той час існавалі тэхналогіі перамяшчэння старых будынкаў. Але гэта так проста — пазносіць іх, як першую мінскую электрастанцыю і былыя вакзалы. І разам з імі зруйнаваць Душу.

У Беластоку, у Любліне, дзе давялося бываць, ніхто не зносіць старыя, нават паўразваленыя будынкі, што стаяць у чаканні рэстаўрацыі ці новых гаспадароў. З вокнаў глядзяць на вас вялізныя фотавыявы людзей, якія жылі калісьці ў гэтых дамах, на гэтай вуліцы, у гэтым горадзе...

Там разумеюць, што ўсе мы жывем на Плошчы Успамінаў. І што менавіта з нашага жыцця тчэцца бясконцае палатно Гісторыі.

*kamerton_41@mail.ru*

# Сапраўдная беларуская сям'я

Рэпартаж **Сяргея Гудзіліна**.

12 кастрычніка ў грэка-каталіцкай парафіі Святога Язэпа ў Мінску атрымала хрост Яніна Найдзёнава. Гэта першая дачка ў сям'і Дзяніса і Наталлі.

Галоўнымі сімваламі хросту сталі вада, алей, крыжык, свечка, белая вопратка і бел-чырвона-белы пояс, якім сімвалічна «спавілі» дзіця.

Пра жыццё гэтай цудоўнай беларускай сям'і «НН» узгадвае не ўпершыню. У студзені 2013 года Дзяніс і Наталля пабраліся шлюбам у традыцыйным беларускім стылі. Веселле ў вышыванках адбылося зімой у музеі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах.









# «Саколка» — новы брэнд беларускага адзення

З'яўляецца ўсё больш прадукцыі, якая цешыць сваім нацыянальным каларытам: ад кубкаў да адзення. Не так даўно пабачылі свет аўтарскія саколкі дызайнера Вадзіма Пракопчыка (на фота знізу). Мы сустрэліся з ім і пагутарылі пра новы брэнд.

**«Наша Ніва»: Адкуль узнікла «Саколка»?**

**Вадзім Пракопчык:** Ад вялікага жадання рабіць аўтарскія саколкі. Не пахабныя, не пошлыя, без надпісаў «Твая салодкая малышка». Хацелася зрабіць саколкі, якія нясорамна будзе апрануць і нацыяналісту, і абсалютна індыферэнтнаму абывацелю.



**«НН»: Які асноўны канцэпт у брэнда?**

**ВП:** Наш асноўны канцэпт — адзенне для беларусаў XXI стагоддзя. Чалавеку, які жыве тут і цяпер, карыстаецца сучаснымі аўто, камп'ютарамі і смартфонамі, жыве ў сучасным рытме і ў сучасным асяродку, патрэбнае новае адзенне. Сучаснае, простае, сваё.

**«НН»: Што за сімвалы на саколках?**

**ВП:** Цяпер мы ўжо маем тры калекцыі з сімваламі «Крывіцкія руны», «Патрык» і «Піктаграмы». Калі казаць пра «Крывіцкія руны», дык гэта сімвалы распрацаваў Міхаіл Баярын. Узяўшы любы ручнік ці беларускі народны строй і ўважліва разгледзеўшы яго, вы ўбачыце такія сімвалы.

**«НН»: Ці плануеце Вы выпускаць нешта яшчэ акрамя саколак?**

**ВП:** Ужо цяпер ёсць разуменне, што проста ўзяць саколку і надрукаваць на ёй знак — недастаткова. Безумоўна, такія «проста саколкі» застануцца і, магчыма, будуць нават складаць бальшыню асартыменту, але будуць і прынцыпова іншыя рэчы «на базе саколак», скажам так. Пакуль не буду раскрываць карты, прыйдзе час — пабачыце. Таксама рыхтуем світшоты, бо, як пачало халадаць, адразу рынак запатрабаваў нешта больш цёплае. Цэзу процьма, але я ўпэўнены, што нават самая першая калекцыя з рунамі яшчэ далёка не вычарпаная. Тут трэба захаваць пэўны рытм і не спяшацца. Заднымі толькі рунамі мы маем ужо цяпер чатыры новыя распрацаваныя крокі, якія зробім цягам бліжэйшых месяцаў. Але акрамя рунаў шмат тэмаў, якія чакаюць сваёй рэалізацыі па прынцыпе: ёсць задача — ёсць адмысловец, які здольны якасна яе выканаць.



**«НН»: Якія кошты на саколкі?**

**ВП:** Цяпер мы трымаем кошты на мінімуме для прадукцыі такога ўзроўню — 200.000 амаль на ўсе саколкі. А напрыканцы года для тых, хто замовіў шмат саколак, мы рыхтуем сюрпрызы — гэта абавязкова.

**«НН»: Ці ёсць ужо попыт на прадукцыю?**

**ВП:** Саколкі разыходзяцца як гарачыя піражкі, і гэта наша галоўная ўзнагарода.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Рэспубліканскія трасы разагналі да 120 км/г

Дазволеная хуткасць узнятая пасля загаду Лукашэнкі.

ДАІ спатрэбіўся месяц, каб адрэагаваць на заявы Аляксандра Лукашэнкі наконт арганізацыі дарожнага руху.

3 верасня кіраўнік дзяржавы абурыўся нізкай дазволенай хуткасцю на МКАД. Лукашэнка палічыў, што замест 90 км/г можна ездзіць 120 км/г. «Прымаць рашэнні па вызначэнні хуткасных абмежаванняў павінны перадусім транспартныя службы, а не міліцыя. Трэба да 120 км/г павялічваць і па іншых дарогах. Нагадайце, каб унесці прапанову. Усё адно там едуць 120», — сказаў ён, наведваючы будоўлю другой кальцавой.

### Дарогі ў абласныя цэнтры — 120 км/г

Ад 10 кастрычніка прапановы Лукашэнкі ўступілі ў сілу. Па якіх дарогах цяпер можна ехаць 120 км/г?

Р1 Мінск — Дзяржынск (цалкам),

М1 Брэст — Мінск — мяжа Расіі (573—610 км, каля Оршы),

М4 Мінск — Магілёў (цалкам),

М5 Мінск — Гомель (цалкам),

М6 Мінск — Гродна (8—57 км, ад Мінска пад Валожын).

Усе гэтыя дарогі маюць па дзве паласы ў кожны бок. Машыны аддзеленыя ад сустрэчнага патоку агароджай ці раздзяляльнай паласой.



За нязначнае перавышэнне хуткасці ў Беларусі не штрафуюць, таму многія кіроўцы будуць разганяцца і да 130 км/г. Аднак у выпадку аварыі на хуткасці, напрыклад, 121 км/г давядзецца адказаць па ўсёй строгасці закона.

Змены датычаць і абмежаванняў хуткасці ў небяспечных месцах. Напрыклад, на трасе М6 Мінск—Гродна кіроўцаў лавілі на хуткасць у вёсцы Байдакі. На нерэгуляваным пешаходным пераходзе кіроўцам даводзілася скідваць хуткасць з 90 км/г да 70 км/г. Але гуляць дык гуляць — цяпер кіроўцам дазволяць ехаць тут 120 км/г.

Тая самая сітуацыя на трасе Р1 Мінск—Дзяржынск. Каля вёскі Хадакова раней стаялі абмежаванні «80» у абодвух накірунках і працавала фотафіксацыя. Некалькі такіх месцаў было і на магілёўскай трасе. Цяпер гэтыя камеры наладзяць на 120 км/г.

### МКАД — ад 90 да 100 км/г

Сталічныя даішнікі пакуль змагаюцца за ранейшую хуткасць на МКАД. Ехаць 100 км/г (фактычна 110 км/г) дазволена толькі ў крайняй левай паласе на некалькіх участках: ад вуліцы Байкальскай да вуліцы Скарыны, а таксама ад Лагойскага тракта да праспекта Пераможцаў.

Сімвалічна, што на наступны дзень пасля павышэння хуткасці на МКАД адбыўся ўсплёск аварый. Кіроўцы налічылі з дзясятак аварый, прычым амаль усе менавіта ў «разагнанай» трэцяй паласе. У наступныя дні сітуацыя стабілізавалася.

**Ягор Марціновіч**

**Меркаванне**

# Пахавальныя бюро парадуюцца

На МКАДзе і так людзі забіваліся дзясяткамі, а зараз будзе яшчэ горш. На кожным заездзе-з'ездзе на МКАД — аварыйная зона. А там дзе тыя заезды-з'езды супадаюць з мастамі і накладаюцца адзін на адзін — увогуле кашмар. Кожны, хто жыве за МКАДам, у курсе (я таксама там жыву і штодзень важу дзяцей у школу з праездам па МКАД — смяротная латарэя).

Павышаецё хуткасць — пахавальныя бюро парадуюцца.

А за апошнім рашэннем, дарэчы, ідыёцкае жаданне пакрасавацца: во, маўляў, якія я зрабіў вам дарогі. А дарогі па бяспецы — зусім жа не нямецкія і не польскія аўтастрады. У нас яны танненькія, з'езды з іх танненькія, агароджаў вакол іх няма, дый якасць палатна не еўрапейская. І машыны ў нас не як у немцаў, і па падушках бяспекі ў тым ліку.

Любое павелічэнне вядзе да таго, што людзі, у прынцыпе, пачынаюць ездзіць хутчэй. А на МКАДзе ёсць месцы, дзе проста штодзённы гамон. Напрыклад, заезды-з'езды на МКАД каля праспекта ва Уруччы, з Усіхсвяцкай, з Партызанскага праспекта, са Ждановіч, каля Еўраопта ў Сухараве, з праспекта Дзяржынскага. Паласы разгону там такія кароткія (або іх няма зусім), што там суцэльная аварыйная сітуацыя ў гадзіны пік. А тут яшчэ па левай нехта будзе законна гнацца, а потым рэзка натыкацца на затор ці нечаканыя перастраенні...

Рашэнне, прынятае дзеля пыхі і рэйтынгу, будзе каштаваць нам сотні жыццяў.

**Мікола Бугай**

### Каментары з nn.by

Патрэбна адмяніць пошліны на аўтамабілі, і тады беларусы перасядуць на больш новыя, а значыць, і больш надзейныя аўтамабілі. А таксама пераймаць досвед рамонту і будавання дарог у больш вопытных краінах.

**Taras-Bulba**

На такой хуткасці наогул ездзіць умець трэба. І я ў Беларусі бачыў няммногіх, хто рэальна добра водзіць машыну на хуткасці вышэй за сто. Так, ведаю чалавека, які можа ехаць 200 па М1 і перастройвацца туды-назад пастаянна. Але я ведаю такога толькі аднаго. А вось тых, што едуць 90 і, гледзячы на іх манеўры, ужо пачынае гуляць ачко, ведаю нашмат больш.

**Satan**

Даўно даказана, што абмежаванні хуткасці па-за межамі гарадоў не ўплываюць на аварыйнасць на аўтамагістралях: г. зн., няма розніцы, ці 90, ці 140 — колькасць здарэнняў і вынікі аднолькавыя. Эксперыменты рабілі немцы, у выніку чаго і знялі абмежаванні з аўтабанаў.

**Лукашанец**

## Зімовыя шыны і дзіцячыя аўтакрэслы цяпер абавязковыя

Змены ў Правілах дарожнага руху.

Аляксандр Лукашэнка ўнёс змены ў правілы дарожнага руху. Што чакае кіроўцаў?

Выкарыстанне зімовых шын з 1 снежня па 1 сакавіка стане абавязковым. Гэта закране фактычна ўсе аўтамабілі, апроч аўтобусаў і грузавікоў. На іх звычайна стаяць усесезонныя шыны.

Абавязковай будзе і ўстаноўка дзіцячых крэслаў. Выключэнне зроблена толькі для таксі. Дзецям давядзецца сядзець у спецыяльных крэслах, пакуль яны не вырастуць да 150 см альбо да ўзросту 12 гадоў.

Іншыя нававядзенні не такія прынцыповыя. Напрыклад, уводзіцца новая дарожная разметка для арганізацыі руху веласіпедаў, а час практычных заняткаў у аўташколах вырасце ад 40 да 50 гадзін.

Змены ўступаюць у сілу 13 студзеня 2015.

**ЯМ**

# Нобелеўскую прэмію далі 17-гадовай — упершыню ў гісторыі

Малала Юсуфзай — герачная дзяўчынка з пакістанскай даліны Сват.

Малала нарадзілася ў горадзе Мінгора на самай поўначы Пакістана ў 1997 годзе. Па этнічным паходжанні яна пуштунка. Яе бацька Зіяудзін з'яўляўся адукацыйным актывістам, яму належаў шэраг прыватных школ у Пакістане.

Пасля таго, як у 2001-м амерыканцы пачалі контртэрарыстычную аперацыю ў Афганістане, многія талібы перасеклі мяжу і аселі ў Пакістане. Яны ўзялі пад кантроль частку раёнаў гэтай краіны.

Талібан забараняе жанчынам вучыцца пасля 8-гадовага ўзросту (да гэтага часу можна вывучаць толькі Каран), забаранілі тэлебачанне, музыку. За парушэнне гэтых правілаў жанчын збівалі і каралі смерцю.



У пачатку 2009 года, калі талібы пачалі ўзрываць школы для дзяўчынак, Малала пад псеўданімам напісала першы допіс на сайце Бі-бі-сі аб адукацыі пры талібах, аб сегрэгацыі жанчын. У той самы год урадавым войскам Пакістана ўдалося выбіць талібаў з даліны Сват. Тады ж Юсуфзай атрымала пакістанскую моладзевую прэмію міра. Пра яе здымалі фільмы, рабілі рэпартажы.

Талібан абвесціў персанальнае паляванне на Малалу. 9 кастрычніка 2012 года ў школьны аўтобус, дзе ехала дзяўчынка, зайшоў баявік, які запытаўся, хто з дзяцей Малала. Калі пачуўся адказ, то ён выцягнуў пісталет і зрабіў тры стрэлы. На шчасце, кулі не закранулі жыццёва важных зонаў мозгу. Першыя дні Малала была без прытомнасці, але потым ачуняла, і яе змаглі перавезці ў брытанскі шпіталь у Бірмінгеме.

50 ісламскіх свяшчэннаслужыцеляў Пакістана 12 кастрычніка 2012 выдалі фэтву супраць тых, хто спрабуе забіць Малалу. Аднак Талібан пацвердзіў сваё жаданне забіць бацьку і дачку Юэуфзай.

Цяпер Малалу называюць у спісах самых уплывовых жанчын свету. Яна сустракалася з усімі сусветнымі лідарамі. У будучыні яна марыць стаць палітыкам.

**Зміцер Панкавец**



**Абаронца індыйскіх дзяцей**

Разам з Малалай Нобелеўскую прэмію міру падзяліў Кайлаш Сат'яртхі з Індыі. Сат'яртхі браў актыўны ўдзел у індыйскім руху супраць эксплуатацыі дзяцей з 1990 года. Яго арганізацыя вызваліла больш за 80 000 дзяцей ад розных формаў рабства і дапамагла ў пасляховай рэінтэграцыі, рэабілітацыі і адукацыі. Кайлаш Сат'яртхі, працягваючы традыцыі Гандзі, узначаліў розныя формы пратэстаў і дэманстрацый, каб пакласці канец эксплуатацыі дзяцей з мэтай атрымання фінансавай выгады, гаворыцца ў паведамленні Нобелеўскага камітэта.

# Эбола: чаму эпідэмія 2014 года стала найбуйнейшай у гісторыі

Эпідэмія гемарагічнай ліхаманкі забіла ўжо **4 тысячы чалавек.**

Вірус Эбола знаёмы чалавеку з 1976, калі эпідэмія смяротнай ліхаманкі была зафіксаваная ў Заіры (цяпер Дэмакратычная Рэспубліка Конга). З гэтага часу ў свеце было зарэгістравана каля трох дзясяткаў эпідэмій віруса ці адзінкавыя выпадкі заражэння — у асноўным даследчыкаў віруса.

Самай буйной з ранейшых эпідэмій была ўспышка Эболы ва Угандзе ў 2000—2001 годзе. Было 425 хворых, 224 з якіх загінулі. Аднак маштабы эпідэміі 2013—2014 года непараўнальныя з мінулымі. Па стане на сярэдзіну кастрычніка колькасць хворых дасягнула 8,5 тысячы чалавек, амаль палова з іх памерла. Чаму ж эпідэмія, што лютуе ў Заходняй Афрыцы сёння, набыла такі размах?



## 1. Урбанізацыя

Усяго існуе пяць відаў віруса Эбола. Чатыры з іх: заірскі, суданскі, банбуджыйскі дыі івуарыйскі — уяўляюць небяспеку для чалавека. У снежні 2013 года ў горадзе Гекеду на мяжы Гвінеі, Сьера-Леонэ і Ліберыі распачалася эпідэмія менавіта заірскага тыпу. Шчыльнасць насельніцтва ў гэтых трох краінах непараўнальна вышэйшая за мясцовасці ў Цэнтральнай Афрыцы, дзе Эбола рэгістравалася раней. Даследчыкі кажуць, што цяперашняя эпідэмія — першы ў гісторыі выпадак гемарагічнай ліхаманкі ў гарадской мясцовасці, што і дапамагае вірусу шалёна перадавацца.

## 2. Галеча і катастрофа аховы здароўя

Ліберыя, Гвінея і Сьера-Леонэ — адныя з самых бедных краін у свеце. У рэйтынгу Індэкса чалавечага развіцця яны займаюць 175, 179 і 183 месцы адпаведна з 187 магчымых. У краінах пануе страшэннае бязладдзе, і чакаць хуткай рэакцыі ўладаў на эпідэмію не даводзілася. Сістэмы медыцынскай дапамогі ў рэгіёне таксама амаль не існуе. У бальніцах бракуе не толькі лекаў, але нават мыла і антысептыкаў. У многіх з іх нават рукамыйні ўсталяваныя толькі ў аперацыйных.

Эбола дабіла сістэму аховы здароўя ў трох краінах. Бездапаможныя медыкі пачалі масава ўцякаць з ахопленых ліхаманкай рэгіёнаў, пакідаючы хворых сам-насам з хваробай і ствараючы вірусу цудоўныя ўмовы для распаўсюджвання. Так, у жніўні з шасці тэрапеўтаў, якія абслугоўвалі адразу чатыры гвінейскія правінцыі, трое кінуліся наўцёкі.

## 3. Забабоны і адукацыя

Невысокі ўзровень адукаванасці, забабоны і вера ў звышнатуральнае сярод жыхароў прышліся на руку вірусу. Адсутнасць элементарнай гігіены з'яўляецца звычайнай справай, але падчас эпідэміі некаторыя рытуалы мясцовага насельніцтва ёсць сапраўдным кашмарам любога эпідэміёлага. Напрыклад, пахаванне ў народаў Заходняй Афрыкі з'яўляецца важным этапам у жыцці чалавека. На пахаванне прыходзіць многа людзей. Целы памерлых прынята калектыўна мыць і адзяваць. Таксама некаторыя практыкуюць спажыванне любімага напою нябожчыка: кожны прысутны робіць глыток, але найперш кубак прыкладаюць да вуснаў трупа. Ведаючы, што Эбола перадаецца праз кантакт з вадкасцямі цела, сумны вынік такіх рытуалаў відавочны...

## 4. Позняя рэакцыя

Сёння заходнія СМІ перапоўненыя крытыкай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя і мінздароўя заходніх краін праз недапушчальна павольную рэакцыю на афрыканскі крызіс. Эксперты кажуць, што СААЗ аб'явіла эпідэмію Эболы міжнароднай пагрозай толькі 8 жніўня 2014 года, хоць былі ўсе падставы зрабіць гэта на некалькі месяцаў раней, калі распаўсюд ліхаманкі яшчэ не выйшаў з-пад кантролю і яго можна было б стрымаць намаганнямі міжнароднай супольнасці.

Аднак эпідэмія 2014 года паказала і залежнасць бяспекі людзей ад грашовай выгады. Афрыканцы хварэюць на Эболу ўжо не першы дзясятак гадоў, але распрацоўка вакцыны там, паводле вядомых прычын, малаверагодная. Да 2014 года на Захадзе існавалі сумневы, што Эбола можа пранікнуць за межы Афрыкі. Вірус даследавалі, але стварыць вакцыну не спяшаліся. Фармацэўтычныя карпарацыі — бо такая задумка не прынясе прыбытку, навукоўцы на дзяржфінансаванні — праз недахоп грошай. Аднак калі першыя выпадкі Эболы былі зарэгістраваныя ў ЗША і Еўропе, пра так і не створаную вакцыну адразу ўспомнілі ўсе.

На шчасце, эксперты кажуць, што ў развітых краінах вялікая эпідэмія малаверагодная: Эбола перадаецца не так лёгка, а ўзровень медыцынскай дапамогі непараўнальны з афрыканскім. Аднак колькі яшчэ жыццяў забярэ цяперашняя эпідэмія, цяжка спрагназаваць.

**Кірыла Хілько**

# Аўстралійцы знайшлі звышэфектыўны прэпарат ад раку



Аўстралійскія навукоўцы заяўляюць аб стварэнні рэчыва, што можа стаць новым словам у лячэнні раку. Каманда даследчыкаў пад кіраўніцтвам Глен Бойл восем гадоў даследавалі плады аўстралійскай расліны Fontainea picrosperma, што расце ў трапічных лясах. З костак ягад былі выдзеленыя фарболавы эфір, які атрымаў назву EBC-46.

Дадзенае рэчыва паказала высокую эфектыўнасць супраць меланомы, саркомы, мастацытомы, саркаідозу пры ўвядзенні прэпарату унутр пухліны. Выпрабаванні EBC-46 праводзіліся на сабаках, кошках, конях і мышах. Ін'екцыі EBC-46 прывялі да змяншэння ці знікнення пухліны ў большасці паддоследных жывёлаў. Больш за 70% мышэй з меланомай пасля ін'екцыі EBC-46 дасягнулі трывалай рэмісіі тэрмінам 12 месяцаў.

У параўнанні з іншымі сродкамі хіміятэрапіі, EBC-46 дзейнічае вельмі хутка. Пухліна пачынае знікаць ужо праз некалькі дзён пасля адзіночнай ін'екцыі. Да таго ж EBC-46 наносіць арганізму нашмат менш шкоды за хірургічнае ўмяшальніцтва, прамянёвую ці хіміятэрапію. Кампанія QBiotics, якая даследуе EBC-46, заяўляе, што прэпарат можна будзе выкарыстоўваць для лячэння амаль любых пухлінаў, у якія можна будзе ўвесці прамую ін'екцыю прэпарату. Цяпер рыхтуюцца клінічныя выпрабаванні прэпарату на людзях.

На жаль, EBC-46 прадэманстраваў эфектыўнасць толькі пры непасрэдным кантакце з целам пухліны. Пра эфектыўнасць прэпарату супраць метастазаў нічога не паведамляецца.

**Кірыла Хілько**

# Дэпард'ё прызнаўся ў крадзяжах і гомасэксуальнай прастытуцыі

Жэрар Дэпард'ё, французскі акцёр, які прыняў грамадзянства Расіі, каб не плаціць падаткаў, апублікаваў кнігу сваіх шчырых мемуараў пад назвай «Ça c'est fait comme ça». Яе назву можна перакласці як «Вось так яно».

Цяжкае, часам агіднае жыццё паўстае са старонак мемуараў. «Я жыў у вельмі беднай сям'і, настолькі беднай, што мае бацькі не маглі наняць акушэрку, і я прымаў роды ў сваёй маці»...

«У 15 гадоў я зразумеў, што прыгожы і прывабны для пажылых мужчын, яны прапаноўвалі мне сэкс, я браў з іх за гэта грошы, так я стаў хлопчыкам па выкліку, пакуль не ажаніўся».

Дэпард'ё прызнаецца таксама, што абкрадваў французскіх студэнтаў падчас дэманстрацый 1968 года, калі сядзеў з імі ў турме за крадзеж машыны. Нарэшце, як яго сын памёр ад алкагалізму.

Дэпард'ё і сам п'е. «Пачынаю з віна, а ўвечары пераходжу на віскі». А таксама піша лісты Пуціну: «Вечарам я часта пішу Пуціну лісты. Гэта вельмі проста. Я нагаворваю гэтыя тэксты. У мяне ёсць памочнік, ён набірае іх па-французску, потым перакладае на расейскую — і яны трапляюць на стол Пуціну. Я ведаю, яму падабаецца, што я пішу, ён мне адказвае», — піша Дэпард'ё.

Жэрар Дэпард'ё атрымаў расійскі пашпарт у 2013 годзе, а таксама прапіску ў Мардовіі і пяціпакаёвую кватэру ў Грозным ад Рамзана Кадырава.

**Сяргей Гезгала**

# За купюру 5000 рублёў на аўкцыёне даюць 1400 даляраў

Рэдкі лот з'явіўся на аўкцыёне Ay.by. Адзін з карыстальнікаў выставіў на продаж 5000 беларускіх рублёў. Цяпер гэтую банкноту гатовыя выкупіць за 1400 даляраў.




Рэч у тым, што гэтая банкнота мае рэдкую серыю — АГ. Як пішуць баністы (калекцыянеры папяровых грошай), за 14 гадоў назірання яны не сустракалі яшчэ ніводнай банкноты з такой серыяй.

Калі вы паспяшаліся шукаць у сябе грошы з серыяй АГ, то варта папярэдзіць, што ўнікальнай яна з'яўляецца толькі для купюр наміналам 5000 рублёў. Па суседстве ёсць лот, дзе прадаецца 100 рублёў з серыяй АГ, але зразумела, што за іх не прапаноўваюць нават даляра.

Адзначаю, што яшчэ ніводнага разу беларуская купюра на аўкцыёнах не прадавалася за такія грошы.

**Зміцер Панкавец**

# На канцэрт Вольскага ў Вільню прыехалі 2500 чалавек

Музыка, што спявае па-беларуску і канцэрты якога ў Беларусі забароненыя, сабраў поўную залу Teatro Arena — 2,5 тысячы чалавек.

Канцэрт «Вільня. Воля. Вольскі» быў прэзентацыяй новага альбома «Грамадазнаўства».

Людзі масава прынеслі з сабой белчырвона-белыя сцягі. Зрэшты, і сам Вольскі выступаў на фоне вялізнага нацыянальнага сцяга.

Каб выказаць салідарнасць з народам Украіны, Вольскі праспяваў песню «Уставай, мілая мая» гурту «Акіян Эльзы». Дарэчы, у некаторых гледачоў былі таксама ўкраінскія сцяжкі.

49-гадовы спявак у свой час быў салістам гуртоў «Мроя», NRM і Zet, а таксама кітчавай «Крамбамбулі». Ад нядаўняга часу ён выступае самастойна.

У праграме канцэрта было 33 песні. У першым аддзяленні прагучала 11 твораў з альбома «Грамадазнаўства». У другім — 22 найлепшыя песні розных гадоў гуртоў, у якіх Вольскі быў салістам.

Скончыў свой канцэрт Вольскі культавымі «Трыма чарапахамі». На біс жа гледачы папрасілі «Простыя рэчы» — і, як заўжды, іх спявала ўся зала. А падаткі з зробленых арганізатарамі грошай застануцца ў літоўскім бюджэце. А маглі ж пайсці ў бюджэт Рэспублікі Беларусь...

**Мікіта Недаверкаў**


ЮРА СІЛУН, GENERATION.BY

# Віктар Марціновіч працуе над кнігай пра Шагала ў Вене

Марціновіч атрымаў еўрапейскую пісьменніцкую стыпендыю. Яна пакрывае яму кошты пражывання ў Вене, каб ён мог напісаць кнігу пра жыццё Марка Шагала.

Паралельна нямецкае выдавецтва Voland Und Quist выкупіла правы на ягоныя раманы «Параноя» ды «Сфагнум» і запрасіла Віктара Марціновіча ў вялікую літаратурную вандроўку праз усю Нямеччыну.



«Сёння я ў Патсдаме, — распавёў «Нашай Ніве» Марціновіч у панядзелак. — Учора быў выступ у Ене — горадзе Шылера, заўтра — у Берліне, паслязаўтра — у Лейпцыгу, потым — Дрэздэн». Сустракаюць пісьменніка ў кожным горадзе па-свойму. «Вось у Франкфурце днём было мала людзей і яны былі абыякавыя, а ўвечары публікі было ўжо шмат, у Ене нагул было цудоўна, я адчуваў сабе рок-зоркай, бо выступ быў са сцэны». Віктар адчувае, што гэтыя гастролі павольна яго змяняюць. Насычаны графік стаміў пісьменніка. «Я інтраверт, і мне вельмі цяжка камунікаваць з вялікім натоўпам людзей».

Больш за ўсё Віктара здзівіла тое, што на ягоныя выступы людзі ідуць па квітках, якія каштуюць пяць еўра. «Уявіце, каб у Беларусі людзі ішлі слухаць літаратуру за грошы! Звар'яцець!»

Што тычыцца Вены, то пісьменнік параўноўвае горад з садам, які схаваўся сам ад сябе. «Я жыву ў альтбау — вялікім доме эпохі мадэрну. Кватэра, якую зняў, неверагодна прыгожая, з ружамі ў пад'ездзе. Значную частку свайго часу я проста сяджу ў сваім раскошным офісе са скураным фатэлем у стылі Шэлдана Купера і пішу кнігу пра Шагала. У 12:30 ланч, за якім усе калегі таксама выпаўзаюць са сваіх нор і пачынаюць сябраваць і знаёміцца. Яны ставяцца да мяне прыязна, я ўжо атрымаў некалькі вельмі каштоўных прапаноў, якія прадугледжваюць працаўладкаванне ў «глыбокай Еўропе». Але вы мяне ведаеце: хацеў бы з'ехаць — з'ехаў бы даўно».

Тым часам у Беларусі цалкам разышоўся першы наклад ягонага рамана «Мова». Ёсць попыт і на рускую версію кнігі.

Віктар Марціновіч прыедзе ў Беларусь на пару дзён, каб 22 кастрычніка ў галерэі «Ў» адкрыць арт-выставу, прысвечаную мастацкаму свету «Мовы». «Я планую правесці экскурсію па ёй, распавесці пра тое, як яны суадносяцца з тым, як уяўляў




Чайнатаўн ці Плошчу мёртвых я сам».

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**In memoriam**

# Іван Лепешаў

23 кастрычніка патрыярху беларускага мовазнаўства споўнілася б 90 гадоў. Ён зусім трохі не дажыў.

Іван Лепешаў нарадзіўся ў 1924 на самесенькім усходзе Беларусі — у вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна. Ваяваў, быў паранены, пражыў жыццё з асколкам каля хрыбта. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі, дайшоў да Кёнігсберга.

Пасля вайны скончыў Аршанскі настаўніцкі інстытут, працаваў настаўнікам беларускай мовы ў Свіслацкай школе (Гродзенская вобласць).

У 1949 годзе ў органы данеслі пра яго рэзкі выступ перад людзьмі. Лепешава арыштавалі, паднялі той факт, што немцы ў 1942 мабілізавалі яго ў паліцыю, адкуль ён збег. Праз гэта правёў 6 гадоў (1949—1955) у савецкіх канцлагерах на Далёкім Усходзе. Быў рэабілітаваны (1963) за адсутнасцю віны.

Старыя людзі ведаюць, як цяжка было з такой біяграфіяй знайсці працу і тым больш — рабіць навуковую кар'еру. Але Лепешаў ізноў настаўнічаў. Скончыў завочна філфак, а ў 47 гадоў — аспірантуру. У 62 гады стаў прафесарам Гродзенскага ўніверсітэта.

Ён аўтар «Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў» ды іншых прац. «Вось ужо гадоў 50 я рэгулярна чытаю беларускую літаратуру і раблю выпісы. Перачытаў, можна сказаць, усе творы і дасавецкага перыяду, і савецкага, і паслясавецкага. 380 аўтараў перачытана мною, складзена картатэка. У ёй больш за 90 000 картак, — расказваў



ён. — На кожны фразеалагізм прыводзіцца некалькі ўжыванняў. У апошнім двухтомным выданні слоўніка апісана больш як 7000 фразеалагізмаў».

Але нават слоўнік трапіў пад цэнзуру. Дырэктар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Генадзь Пашкоў загадаў 87-гадоваму аўтару выкінуць цытаты, узятыя з твораў народных пісьменнікаў Беларусі Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча. Усяго выразалі 15 пісьменнікаў, а таксама прыклады, узятыя з газет «Наша Ніва», «Народная воля» і «Свабода», 500 цытат.

Лепешаў разумеў, што да перавыдання слоўніка не дажыве, таму балюча перажываў такі гвалт над справай свайго жыцця.

«Ён жыў літаратурай і навукай», — кажа яго калега дацэнт Ала Петрушкевіч.

«Сыходзіць пакаленне аксакалаў беларускай філалогіі. Светлая памяць Івану Якаўлевічу!» — напісала ў Фэйсбуку Гелена Манкевіч. «Вельмі светлы, пазітыўны чалавек быў, шкада, што амаль не публічны, таму многія яго і не ведаюць, напэўна. Вялікі патрыёт, вечная памяць...» — адгукнуўся Уладзімір Хільмановіч.

«Не было горшых часоў. Горай было хіба толькі пры царызме, — так выказаўся пра наш час прафесар Лепешаў у сваім апошнім інтэрв'ю. — Толькі ў Беларусі мову тытульнай нацыі паставілі ў такое ганебнае становішча».

У Івана Лепешава засталося двое ўнукаў. Да апошняга моманту ён чакаў сваю дачку з ЗША, але яна паспее толькі на яго пахаванне.

**Сяргей Гезгала, Вольга Гарапучык**

## Сцісла

### Швэдры ў беларускім стылі

Прадпрымальнік з Віцебска Уладзімір Рамановіч да зімы выпускае швэдры з беларускай сімволікай і арнаментам. «Цяпер ідзе трэнд на беларускасць, і ў нас ёсць жаданне спрыяць пашырэнню мовы і культуры, — кажа ініцыятар. — Такі попыт на гэта цяпер!»

### Трыумф беларусаў

Фолк-гурт «Рада», а таксама салісткі Вера Саламонік і Патрыцыя Свіціна перамаглі ў суперфінале міжнароднага конкурсу ў Санкт-Пецярбургу. У ім бяруць удзел дзіцячыя калектывы з розных краінаў. Беларусы падрыхтавалі праграму на аснове беларускіх народных песень «Русалкі», «Чырвоная вішня» і «Страла».

### Brutto ў народзе

Полацкі гурт Sumarok праспяваў па-беларуску песню «Мяч» гурту Brutto.

**СГ; радыё «Свабода»**

## ФУТБОЛ

### БАТЭ — «Шахцёр»

**21 кастрычніка на «Барысаў-Арэне»** працяг футбольнага супрацьстаяння Беларусі і Украіны. У госці да БАТЭ ў рамках Лігі чэмпіёнаў прыязджае данецкі «Шахцёр». Пачатак у 21:45.

## ГАНДБОЛ

### БГК — ПСЖ

**Гандбольная Ліга чэмпіёнаў** працягвае гасціць у Брэсце. 19 кастрычніка ў спарткомплексе «Вікторыя» БГК імя Мяшкова прыме французскі ПСЖ. Пачатак а 16.

## КАНЦЭРТЫ

### Сяргей Башлыкевіч

**15 кастрычніка ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — вялікі канцэрт Сяргея Башлыкевіча. Пачатак а 19. Білеты — 70-80 тысяч рублёў.

### Нейра Дзюбель у Віцебску

**18 кастрычніка ў Віцебску, у бітлз-клубе «Паддашак» (Кастрычніцкая,12),** пройдзе вялікі супольны канцэрт гуртоў «Нейра Дзюбель» і ЖЗЛ. Пачатак а 19.

### Ірэна Катавіцкая

**18 кастрычніка ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** ладзіць канцэрт вядомая этна-спявачка Ірэна Катавіцкая. Пачатак а 17.

## ІМПРЭЗЫ

### Дранік-фэст

**18 кастрычніка ў Магілёве ўпершыню пройдзе «Дранік-фэст».** Адбудзецца свята ў этнаграфічным комплексе «Зялёная рошча». Ад 12 да 16 гасцей будуць частаваць смачнымі дранікамі.

### Прэзентацыя кнігі блогера Яўгена Ліпковіча

**16 кастрычніка ў кнігарні «логвінаЎ»** блогер Яўген Ліпковіч прэзентуе кнігу пра Мінск 1960-х гадоў «Лето из переулка». Пачатак а 19. Уваход вольны.

## ЛЕКЦЫІ

### Канцэптуальны персанаж

**Цэнтр сучаснага мастацтва (Някрасава, 3)** запрашае 17 кастрычніка на лекцыю Ігара Духана «Эль Лісіцкі — «канцэптуальны персанаж» авангарду». Пачатак а 19.






### Ян Карскі. Чалавек свабоды

Выстава, падрыхтаваная Польскім інстытутам у Мінску і Музеем гісторыі Мінска, расказвае гісторыю выбітнага польскага дыпламата часоў Другой сусветнай вайны, адным з галоўных дасягненняў якога стала данясенне інфармацыі аб знішчэнні яўрэяў у Польшчы. Выстава працуе да 19 кастрычніка ў Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10).

## ВЫСТАВЫ

### Таямніцы цела. Сусвет унутры

**Знакамітая выставу «Таямніцы цела. Сусвет унутры»** можна пабачыць у «Мінск-Арэне» (Пераможцаў, 111). За сем год існавання яе пабачылі 30 мільёнаў па ўсім свеце. У экспазіцыі — каля 200 экспанатаў, створаных метадам пластынацыі рэальных чалавечых целаў. Сутнасць выставы не ў тым, каб паказытаць нервы, а каб распавесці, як працуе наш арганізм. Як мы сілкуемся і дыхаем, як мы рухаемся. Вывучыўшы сваё цела, мы зможам лепш клапаціцца пра яго, наша жыццё будзе здаровым, доўгім і шчаслівым, — лічаць стваральнікі. Білеты ад 130 да 195 тысяч.

### Анджэй Струміла. Жывапіс

**Анджэй Струміла** з'яўляецца і ў той жа час не з'яўляецца грамадзянінам свету. Яго карціны, скульптуры, малюнкі разумеюць і імі захапляюцца паўсюль — ад Токіа праз Маскву аж да Нью-Ёрка. І ён не грамадзянін свету, таму што не перанёс на сябе тыповы для гэтай катэгорыі касмапалітызм. Ён нарадзіўся ў Вільні, бацька і дзед паходзяць з Мінску, а сам прафесар Струміла жыве на Сувальшчыне (Польшча). Выстава дзейнічае ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага (пл.Свабоды, 15) да 2 лістапада.




## ТЭАТР

### 16 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Містар Роджар
**Опера** — Чароўная флейта
**Юнага гледача** — Мой бедны Марат

### 17 кастрычніка

**Балет** — Трышчан і Ізота, Шапеніяна, Балеро
**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Лялек** — Тарцюф
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

### 18 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Інтымны дзённік (Дзённік паэта), Воўк-мараплавец
**Опера** — Лятучы галандзец
**Юнага гледача** — Казка чароўнага лесу, Шытая лялька Рэгедзі Энн

### 19 кастрычніка

**Балет** — Са стагоддзя XIX у стагоддзе XX
**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры, Гісторыя двух сабак
**Опера** — Церам-церамок

### 20 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Басэтля

### 21 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Опера** — Пікавая дама

### 22 кастрычніка

**Балет** — Анюта
**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць
**Купалаўскі** — Тата
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

## КІНО

### Уладар кажаноў

Дракула
**Жанр:** драма, баявік, жахі, містыка
**Рэжысёр:** Гары Шор
**У ролях:** Люк Эванс, Сара Гадон, Дамінік Купер, Арт Паркінсан, Чарльз Дэнс, Зак Макгоўн, Тор Крысцьянсан, Дзіярмэйд Мурта
ЗША, 100 хв.

Малады князь Улад Цэпеш, вядомы як Дракула, сын цмока, ужо 10 гадоў кіруе Валахіяй. Ён любіць сваю жонку Мірэну і сына Інгераса. Але калі турэцкі султан Мехмед II патрабуе ад князя тысячу хлопчыкаў (у тым ліку і Інгераса), Улад ідзе на вялікую ахвяру. Каб перамагчы турэцкую арду, Дракула звяртаецца да старажытнага зла, якое дае яму страшную сілу: ён становіцца вампірам. І толькі калі ён зможа супрацьстаяць празе чалавечай крыві на працягу 3 дзён, то зноў стане чалавекам.

Фільм прапануе новую інтэрпрэтацыю міфа пра трансільванскага князя Улада III Цэпеша, або Дракулу. Тут прынц Валахіі паўстае асобай, аддана‌й сваёй сям'і і народу. Ён ахвяруе сабой, каб абараніць княства ад туркаў. За рамантызацыяй персанажа хаваюцца шматлікія жорсткасці, якія здзейсніў гістарычны Цэпеш, а вялікая частка стужкі прысвечаная вампірскай тэме. Але змрочная відовішчнасць фільма можа прыцягнуць аматараў містыкі.

**Настасся Уласава**



# Праваслаўная святая Соф'я Слуцкая аказалася... каталічкай

Гісторыкі **Вольга Бабкова і Настасся Скеп'ян** сканфузілі Беларускі экзархат РПЦ.

Соф'я, або Сафія Слуцкая (а ў яе час яе называлі ўвогуле па-старабеларуску «Зафея») — шанаваная ў Беларусі праваслаўная святая. У Мінску ёсць прыход, названы ў яе гонар. Там у 2012-м, на 400-годдзе спачыну, ёй паставілі невялікі помнік. Але нядаўна гісторыкі высветлілі, што княгіня Соф'я была... каталічкай. І праваслаўнай святой сталася выпадкова. Проста таму што давала грошы на праваслаўны манастыр і ў ім была пахаваная. Але кананічнае права гаворыць адназначна: не праваслаўны не можа быць праваслаўным святым.

На тры дакументы, датычныя Соф'і Слуцкай, першай наткнулася супрацоўніца Нацыянальнага гістарычнага архіва Вольга Бабкова. Яна збірала матэрыялы для кнігі пра старабеларускія тэстаменты. Знойдзеныя Бабковай дакументы зачапілі супрацоўніцу Інстытута гісторыі Акадэміі навук Настассю Скеп'ян. Яна пачала «капаць».

### Самая багатая сірата ВКЛ

Соф'я Слуцкая рана засталася зусім адна на свеце. «Над родам князёў Слуцкіх нібыта вісеў нейкі праклён. Ён вымер літаральна за пакаленне. Спачатку князь Юрый памёр у 27 гадоў, потым не стала яго братоў Аляксандра і Яна-Сімяона. Засталася адна гэтая маленькая Зафея», — кажа Вольга Бабкова.

Соф'я Юр'еўна нарадзілася ў 1586 годзе, 1 мая. А праз 5 дзён, 6 мая, сканаў, найхутчэй ад сухотаў, яе бацька, князь Юрый III Слуцкі. Але дачку ён пабачыць паспеў.

Настасся Скеп'ян цытуе ліст старога слугі, пісаны да маці Юрыя, бабулі Соф'і. Слуга піша, як узрадаваўся князь, пабачыўшы, што яму будзе працяг на гэтым свеце.

У тыя самыя дні Юрый па просьбе слугаў склаў тэстамент, з чаго можна зрабіць выснову, што ні ён, ні яго атачэнне на адужанне не спадзяваліся.

Князь Юрый, дарэчы, быў праваслаўны — і вялікі кніжнік. Ён уласнаручна перапісаў Евангелле, якое захоўвалася ў Свята-Троіцкім манастыры як шанаваная рэліквія.

Маці ж Соф'і, Барбара з Кішкаў, была каталічкай. І дачку, згодна з тагачаснай традыцыяй, хрысцілі ў веру маці.


Апякун — Геранім Хадкевіч.


Соф'я з Алелькавічаў, княгіня Радзівіл. Партрэт другой паловы XVIII стагоддзя.


Януш Радзівіл.

Пасля смерці бацькі нованароджаная Соф'я ўспадкавала Стары Слуцк з двума замкамі, а праз некалькі гадоў, калі адзін за адным сканалі бяздзетныя бацькавы браты Аляксандр і Ян Сімяон, яна стала ўласніцай гіганцкай спадчыны Алелькавічаў: гарадоў Слуцка і Капыля, 7 мястэчак і 32 фальваркаў.

Яе маці, княгіня Барбара, аказалася нібыта адсунутай ад гэтай спадчыны. Вольга Бабкова звяртае ўвагу на трагічную загадку: праз некалькі гадоў, зайшоўшы замуж за гомельскага старосту Андрэя Сапегу, яна склала тэстамент, згодна з якім, усю сваю маёмасць — перлы, упрыгожанні, «быдла рагатае і нерагатае» — аддае мужу. Нічога не пакідае дачцэ. Можа, была нейкая крыўда? Не на малую Соф'ю, вядома, а на яе апекуноў.

### Апякун са сваім інтарэсам

Інстытут апякунства быў пашыраным у Вялікім Княстве. Ва ўмовах тагачаснага жыцця з яго войнамі і пошасцямі часта здаралася, што дзеці ў маленстве гублялі бацькоў. Таму для чалавека было ў парадку рэчаў скласці загадзя тэстамент і вызначыць, хто будзе кіраваць маёмасцю яго сіротаў да іх паўналецця.

Апекі над Соф'яй і яе багатай спадчынай урэшце дабіліся Хадкевічы, далёкія сваякі князёўны. Пры Геранiму Хадкевічу Сафія жыла спачатку ў Навагрудку, пасля ў Слуцку.

«У актавых, судовых кнігах мы часта сустракаем гісторыі пра тое, як апекуны вольна распараджаліся грашовымі сумамі, якія мусілі захоўваць», — адзначае Вольга Бабкова.

Хадкевічы ж вымушаныя былі размічыцца нават не грашыма Соф'і, а ёй самой. Калі ў 1595—96 г. на Случчыну з украінскіх земляў прыкацілася паўстанне Севярына Налівайкі, Хадкевічы вымушаныя былі прасіць вайсковай помачы ў магутных Радзівілаў. Радзівілы далі сваю пяхоту, выставіўшы ўмовай, што князёўна Соф'я выйдзе замуж за Януша Радзівіла. Хадкевічы, у якіх зямля пад нагамі гарэла, пагадзіліся. Шлюб меў адбыцца ў Вільні ў 1600 годзе, пасля запустаў. Нявесце на той час было б 13 гадоў.

Януш Радзівіл быў старэйшы за Соф'ю на сем гадоў. Яму было дазволена час ад часу наведваць будучую жонку ў Слуцку.

Аднак з часам Хадкевічы пачалі шукаць нагоды разарваць дамоўленасць. Абвастрыла адносіны тое, што Радзівілы забралі сабе Копысь, на які прэтэндавалі і Хадкевічы. Услед маладога князя Януша перасталі пускаць да Соф'і. Пра тое, каб ён і не спадзяваўся на шлюб з ёй, Радзівілу сказаў, спаткаўшыся з ім у карчме між Мірам і Нясвіжам, Ян Караль Хадкевіч — славуты ваяр і надзвычай скандальны чалавек.

### Подых грамадзянскай вайны

Настасся Скеп'ян апісвае, як у 1599-м Хадкевічы і Радзівілы, замсест таго, каб рыхтавацца да вяселля, пачалі рыхтавацца да ўзброенага вырашэння спрэчкі. Войска і артылерыі ў ёй мела ўдзельнічаць больш, чым у бітве пад Кірхгольмам, якая пазней праславіць Яна Караля Хадкевіча.

**Дзе пачытаць пра Соф'ю Слуцкую?**

Настасся Скеп'ян. Князі Слуцкія. — Мінск, 2013.

Вольга Бабкова. Тры дакументы пра Зафею Слуцкую. (Архіварыус. Зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. — Мінск: БелНДІДАС, 2004. Вып. 2).

На заклік Радзівілаў у Вільню ўзімку 1600 года з'ехаліся шэсць тысяч узброеных шляхціцаў. Хадкевічы з вялікім атрадам і 24 гарматамі замкнуліся ў камяніцы. Аднак да кровапраліцця, з якога ў ВКЛ магла пачацца паўнавартая грамадзянская вайна за «слуцкую спадчыну», не дайшло.

Пазней Хадкевічы, апісваючы сітуацыю, адзначалі, што шлюб не адбыўся з прычыны... няяўкі жаніха. Маўляў, нявесту яны паказвалі, а жаніх чамусьці не прыехаў.

### «Я — каталічка»

У адзін голас з апекунамі гаварыла і сама Соф'я. І адной з прычынаў сваёй нязгоды на шлюб была якраз розніца ў веры: «Яго мосць пан Януш Радзівіл не з'яўляецца вернікам касцёла каталіцкага, (верніцай) якога я ёсць», — сведчыла дзяўчына перад возным, які разбіралі гэтую справу. Януш, дарэчы, быў лютаранін, а не католік, як піша праваслаўнае «Жыціе» Соф'і.

Бацька Януша, віленскі ваявода Крыштоф Радзівіл Пярун, дабіўся выдання баніцыі для Геранiма Хадкевіча. За парушэнне дадзенага слова яму пагражала пазбаўленне маёмасці, шляхецкіх правоў і выгнанне з краіны. І Хадкевічы саступілі. Шлюб адбыўся ўвосень таго самага года. У шлюбнай дамове яшчэ раз пацвярджалася каталіцтва Сафіі: ёй надавалася права выбраць сабе ксяндза-духоўніка па сваім жаданні і ахвяраваць на будаўніцтва касцёлаў, калі захоча.

Абумоўлівалася і пытанне святара, які меўся даць пратэстанту Янушу і каталічцы Соф'і шлюб. Па традыцыі ён мусіў належаць да канфесіі нявесты. Пра тое, што шлюб асвяціў каталіцкі ксёндз, пісалі пазней і Хадкевічы, спрабуючы той шлюб аспрэчыць.

### Перакручаны ліст да Папы

Пытанне рознасці вераў было знятае. Заставалася пытанне крэўнага сваяцтва — Януш і Сафія мелі супольнага прадзеда, гетмана Канстанціна Астрожскага, пераможцу бітвы пад Оршай. Януш склаў ліст Папу Кліменту VIII з просьбай дазволіць шлюб са сваячкай. Цікава, адзначае Настасся Скеп'ян, што анатацыя на гэты пісаны лацінай ліст падаецца ў «Собрании древних грамот і актов городов Минской губернии», выдаваным за часамі Расійскай Імперыі. У той анатацыі ўсё перакручанае з ног на галаву: нібыта каталік Януш, беручы шлюб з праваслаўнай Соф'яй, просіць у Папы дазволу захаваць ёй яе веру.

### Як пратэстант Януш спрыяў праваслаўным

Пасля шлюбу князёўна адпісала ўсю сваю маёмасць мужу. І пратэстант Януш, для якога галоўнымі ворагамі былі каталікі, а не праваслаўныя, вывеў слуцкія храмы з-пад юрысдыкцыі ўніяцкага епіскапа і вярнуў праваслаўным, падпарадкаваўшы канстанцінопальскаму патрыярху.

У «Жыціі» Соф'і гаворыцца, што гэта яна ўмаўляла мужа спрыяць праваслаўным. Аднак сам Януш меў у гэтым больш палітычны рэзон. Ён, лідар антыкаталіцкай апазіцыі ў Рэчы Паспалітай, якая яднала праваслаўных і пратэстантаў, мусіў узмацняць сваіх прыхільнікаў.

### Сямейныя меладрамы

Жыццё маладой сям'і было няпростым. Ці мо такім яно паўстае з меладраматычных твораў Крашэўскага і Сыракомлі, прысвечаных Соф'і? Зрэшты, сучаснікі адзначалі выбуховы характар і ваяўнічасць князя Януша. Да таго ж памерла малым іх дзіця, пасля княгіня Соф'я, калі верыць польскаму гісторыку літаратуры Алёйзу Сайкоўскаму, завязала раман са слугой мужа, татарынам Асмольскім. Таго Асмольскага-Смольскага ледзь не злавілі «на гарачым» у яе апачывальні, ён паспеў выскачыць у акно ў той час, як слугі князя Януша ламалі дзверы. Каханак уцёк аж у Львоў, але быў схоплены і ўтоплены ў ставе на вачах у Соф'і.

Пасля скандалу Януш з Соф'яй працягвалі жыць як муж і жонка. Пасля няўдалага рокашу супраць караля Жыгімонта III Вазы, адным з кіраўнікоў якога быў Радзівіл, яны разам уцякаюць у Швейцарыю. А атрымаўшы каралеўскае дараванне, вяртаюцца ў Рэч Паспалітую.

Апошнія гады жыцця Соф'і прайшлі ў падляшскіх маёнтках. Там яна выношвала дачку Кацярыну, якая зусім нядоўга пажыла. Следам за дачкой, 19 сакавіка 1612 года, сканала і сама Соф'я.

Спачыла яна ў Свята-Троіцкім манастыры ў Слуцку, там жа, дзе і бацька. Чаму каталічку пахавалі ў праваслаўным храме? Такія прэцэдэнты здараліся, адзначае Скеп'ян. Асабліва калі той храм фундавалі продкі.

Спакой пасля няпростага жыцця не будзе вечным. Праз дзвесце гадоў, пасля далучэння Беларусі да Расіі, разгорнецца гісторыя з «пакланеннем». Княгіня з праваслаўнага роду, замужам за «каталіком» — для Маскоўскага патрыярхату патрэбная была такая гераіня, быў «палітычны заказ». Ну, проста Юдзіф і Алаферн!

Мошчы Соф'і будуць абвешчаныя цудадзейнымі, будуць пісаць, што яны ратуюць Слуцк ад халеры, а канкрэтна вуліцу, на якой стаіць храм, — ад пажараў... У часе антырэлігійнай барацьбы парэшткі княгіні завязуць у Мінск «для вывучэння». Падчас вайны, у руінах універсітэцкага гарадка, іх адшукаюць салдаты вермахта, і па просьбе вернікаў цела Соф'і будзе перанесенае ў Свята-Духаўскую царкву.

Праваслаўныя тэолагі сканфужана маўчалі, калі Настасся Скеп'ян прэзентавала вынікі свайго даследавання на 4-м Кангрэсе даследчыкаў Беларусі. Каталікі ж жартуюць: мы гатовыя «забраць» Соф'ю Слуцкую сабе.

Сяргей Мікулевіч

# Віла Журба

Патрык Мадыяно. Урывак з рамана.

...Што я рабіў у сваe васямнаццаць гадоў на беразе таго возера, у тым вядомым курорце з гарачымі крыніцамі? Нічога. Жыў у сямейным пансіянаце «Пад Ліпамі» на бульвары Карабасэль. Я мог зняць пакой у мястэчку, але мне спадабаліся месцы на ўзвышшы, усяго за некалькі крокаў ад «Віндзора», «Эрмітажа» і «Альгамбры». Іхны люксус і ўзбуялыя сады мяне супакойвалі.

Я тады паміраў ад страху: страх не пакінуў мяне і да гэтай пары, але ў тыя часы ён быў мацнейшы і менш абгрунтаваны. Я ўцёк з Парыжу, пераканаы, што горад стаўся небяспечны для такіх людзей, як я. У ім панавала непрыемная паліцыйная атмасфера. Як на мой густ, было зашмат хапуноў. Выбухалі бомбы. Я хацеў бы ўнесці храналагічную яснасць у мой аповед, а дзеля таго што найлепшымі арыенцірамі з'яўляюцца войны, дык якая вайна, насамрэч, мелася тады на ўвазе? Тая, якую называюць алжырскай, на самым пачатку шасцідзясятых, у эпоху, калі ездзілі ў адкрытых аўтамабілях на Флорыду, а жанчыны безгустоўна апраналіся. Мужчыны, зрэшты, таксама.

Тады я баяўся куды мацней, чым сёння, і выбраў гэтую мясціну таму, што яна ўсяго за пяць кіламетраў ад Швейцарыі. У выпадку якойкольвечы трывогі дастаткова было пераплысці возера. У сваёй наіўнасці я верыў, што чым бліжэй чалавек да Швейцарыі, тым больш у яго шанцы туды ўцячы. Тады я яшчэ не ведаў, што ніякай Швейцарыі не існуе.

«Сезон» пачынаўся 15 чэрвеня. Банкеты й гулянні ішлі без перапынку. Абед «Амбасадараў» у Казіно. Турнэ спевака Жоржа Ульмэра. Тры спектаклі «Паслухайце, спадары». Феерверкі з нагоды 14 ліпеня над Шавуарскай затокай, балеты маркіза Куэва ды іншыя імпрэзы, якія прыйшлі б мне на ўспамін, калі б я меў пад рукою праграму, надрукаваную мясцовым турыстычным бюро. Я захаваў тую праграму і ўпэўнены, што адшукаю яе недзе паміж старонкамі адной з кніжак, што чытаў у тым годзе. Толькі ў якой? Надвор'е было «надзвычайнае», і заўсёднікі прадказвалі сонца аж да кастрычніка.

Я выходзіў вельмі рэдка, адно каб пакупацца. Наогул праводзіў дні ў холе або ў садзе «Віндзора», пераканаўшы сябе, што прынамсі тут нічым не рызыкую. А калі мяне хапала паніка, — як быццам у жываце, трохі вышэй пупа, паволі распускалася кветка — я глядзеў у далеч, на той бераг возера. З садоў «Віндзора» было відаць вёску. Напрасткі не больш чым пяць кіламетраў. Можна было адолець гэтую адлегласць уплаў. А ноччу на малой маторнай лодцы можна было туды заплыць за дваццаць хвілін. Вось так. Я намагаўся супакоіць сябе. Шаптаў, выразна вымаўляючы словы: «Ноччу на малой маторнай лодцы...» Калі мне рабілася лепей, я зноў браўся чытаць раман або нейкі бяскрыўдны часопіс. (Я забараніў сабе чытаць штодзённыя газеты і слухаць радыё. Калі ішоў на фільм, кожны раз стараўся папасці пасля «Навінаў».) Перш за ўсё — нічога не ведаць пра тое, што адбываецца ў свеце. Не павялічваць свайго страху, прадчування непазбежнай катастрофы. Думаць толькі пра самыя бясшкодныя рэчы: моду, літаратуру, кіно, мюзік-хол. Выцягнуцца на вялізнай ляжанцы, заплюшчыць вочы, адпружыцца,



**Патрык Мадыяно**

9 кастрычніка французскі пісьменнік быў абвешчаны лаўрэатам Нобеля-2014 па літаратуры «за мастацтва памяці, з якім ён раскрывае самае няўлоўнае ў чалавечым лёсе і паказвае жыццё ў акупацыі».

Пісьменнік нарадзіўся ў 1945 у Булоні-Біянкуры, пад Парыжам, бацькам хлопчыка быў камерсант са старажытнага яўрэйскага роду з Тасканы, маці — фламандская актрыса. Бацькі пазнаёміліся восенню 1942 у акупаваным немцамі Парыжы, у лютым 1944 года ажаніліся. Практычна ўсе творы Мадыяно аўтабіяграфічныя і (або) звязаныя з тэмай акупацыі Францыі падчас Другой сусветнай. Мадыяно жанаты, мае дзвюх дачок, яго творы не раз экранізаваліся.

«Мадыяно — пісьменнік сур'ёзны, трагічны. Ён здольны падымаць вечныя маральныя тэмы, чапляць чытача. Гэта невыпадковы пісьменнік. А ягонае ўшанаванне Нобелем пойдзе на карысць не толькі аўтару, але і чытачу», — адзначыў старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч.

перш за ўсё — адпружыцца. Забыцца. Ну як?

Папоўдні я спускаўся ў мястэчка. Сядаў на лаўцы на алеі Альбіні і назіраў за рухам малых яхтаў і водных ровараў пры беразе возера. Гэта суцешвала. Зверху мяне прыкрывала лісце платанаў. Я зноў рушыў у дарогу, павольным і асцярожным крокам. На пляцы Пак'е заўсёды выбіраў столік за тэрасай «Таверны» і заўсёды заказваў кампары з содавай. Разглядаў вакол сябе моладзь, маіх аднагодкаў. Мінаў час, і маладых людзей усё прыбывала.

Яшчэ і цяпер чую іхны смех, бачу касмылі валасоў, што спадалі ім на вочы. Дзяўчаты хадзілі ў нагавіцах з буфамі або паласатых шортах. Хлопцы былі ў блэйзерах з нашыўкамі, пад расшпіленымі каўнярамі кашуляў мелі падвязаныя шаўковыя хусткі. Стрыжка ў іх была кароткая, амаль што «пад нуль». Яны наладжвалі патанцоўкі. Дзяўчаты прыходзілі танцаваць у шырокіх суконках, моцна перахопленых у таліі, і ў вузкіх пантофліках—балярынках. Прыстойная і рамантычная моладзь, якую пашлюць у Алжыр. Мяне — не.

А восьмай гадзіне я вяртаўся на вячэру ў пансіянат «Пад Ліпамі». Гэты сямейны гатэль, які вонкава нагадваў мне паляўнічы домік, кожнага лета пасяляў з тузін заўсёдных гасцей. Усім ім было добра за шэсцьдзясят, і мая прысутнасць спачатку моцна іх раздражняла. Але я стараўся не калоць нікому ў вочы. Я не рабіў лішніх жэстаў, апускаў вочы, намагаўся захоўваць незварушны твар і як мага менш міргаць вачыма, каб не пахіснуць сваё і так няпэўнае становішча. Яны заўважылі маю добрую волю і, як думаю, урэшце паставіліся да мяне больш прыхільна.

Сталовы пакой, дзе мы збіраліся есці, быў абсталяваны ў савойскім стылі. Я мог пазнаёміцца з суседзямі за сталом, старой ахайнай парай парыжан, але з некаторых іхных намёкаў мне падалося, што мужчына — колішні інспектар паліцыі. Усе прыходзілі сілкавацца парамі, толькі адзін мэсьё з вусікам і галавою спаніэля ствараў уражанне, што яго тут пакінулі самога. Скрозь шум размоваў я чуў, як час ад часу яго хапала ікаўка, падобная на сабачы звяг. Пасля вячэры жыхары пансіянату пераходзілі ў гасцёўню, дзе з уздыхамі сядалі ў абцягнутыя крэтонам фатэлі. Мадам Бюфа, уласніца, падавала ім нейкую настойку або нешта для стрававання.

Жанчыны гаманілі ў сваім коле. Мужчыны пачыналі партыю канасты. Мэсьё з сабачай галавою закурваў гаванскую цыгару, сядаў зводдалі і з сумным выглядам назіраў за гульнёю.

Я ахвотна заставаўся б з імі, у лагодным і супакойлівым святле лямпаў пад шаўковымі, ружовымі, як ласосевае мяса, абажурамі, але тады трэба было б з імі размаўляць або гуляць у карты. А можа, яны пагадзіліся б, каб я сядзеў там моўчкі і толькі глядзеў? Але я зноў спускаўся ў мястэчка. У восем гадзін пятнаццаць хвілін — даклад на пасля «Навінаў» — уваходзіў у глядзельную залу «Рэгента» або кінатэатра пры Казіно, які быў больш элегантны і камфортны. Я знайшоў праграму «Рэгента» з таго лета.

**Кінатэатр «Рэгент»**

15—23 чэрвеня:
Чуллівая і жорсткая Элісабет — А. Дэкуан
24—30 чэрвеня:
Летась у Мар'енбадзе — А. Рэнэ
1—8 ліпеня:
Р.П.З. выклікае Берлін — Р. Хабіб
9—16 ліпеня:
Тэстамент Арфея — Ж. Както
17—24 ліпеня:
Капітан Фракас — П. Гаспар-Юі
25 ліпеня—2 жніўня:
Хто вы, спадар Зорге? — І. Чампі
3—10 жніўня:
Ноч — М. Антаніёні
11—18 жніўня:
Свет Сузі Вонг
19—26 жніўня:
Заганнае кола спадара Пэка
27 жніўня—3 верасня:
Лес закаханых — С. Атан-Лара

Я ахвотна паглядзеў бы яшчэ раз некаторыя сцэны з гэтых старых фільмаў.

Пасля кіно я выпіваў яшчэ адну шклянку кампары ў «Таверне». Маладых ужо не было. Поўнач. Недзе, мусіць, танцавалі. Я глядзеў на пустыя крэслы і столікі ды на афіцыянтаў, якія складалі парасоны і заносілі іх унутр. Потым доўга назіраў за мігатлівым фантанам па іншы бок пляцу, перад уваходам у казіно. Вада безупынна мяняла свой колер. Я забаўляўся падлікам, колькі разоў яна афарбуецца на зялёны. Ці не ўсё роўна, як марнаваць час, праўда? Раз, два, тры... Далічыўшы да пяцідзесяці трох, я ўставаў і ішоў, але найчасцей нават не стараўся пачынаць гэтую лічылку. Я мроіў, безуважна папіваючы кампары малымі глыткамі. Прыгадваеце Лісабон з часоў вайны? Усіх тых тыпаў у барах і вестыбюлі гатэля «Авіз», з куфэркамі і валізкамі, у чаканні параплава, які ніколі не прыйдзе? Дык вось, дваццаць гадоў пасля тых падзеяў я адчуваў сябе адным з такіх уцекачоў.

Зрэдчасу я надзяваў свой фланэлевы гарнітур і адзіны гальштук. (Гэта быў цёмна-сіні гальштук, усыпаны малымі лілеямі, мне яго падараваў адзін амерыканец. На адвароце гальштука былі вышытыя словы: International Bar Fly. Потым я даведаўся, што яны абазначалі таемнае брацтва алкаголікаў. Па такіх гальштуках яны распазнавалі сваіх і маглі дапамагаць адзін аднаму.)

Пры гальштуку я заходзіў у Казіно і нейкі час прастойваў у дзвярах бара «Брумэль», назіраючы за танцамі. Танцавалі наогул людзі паміж трэцім і шостым дзясяткам, але часам можна было ўбачыць і значна маладзейшую дзяўчыну ў кампаніі нейкага зграбнага мужчыны пад пяцьдзясятку. Шматнацыянальная, досыць «шыкоўная» кампанія калыхалася пад італьянскія шлягеры або ямайскі танец каліпса. Потым я ішоў наверх, у залы для азарту. Там часта ішлі гульні з вялізнымі банкамі. Самыя азартныя гульцы паходзілі з зусім блізкай Швейцарыі. Прыгадваецца мне і адзін вельмі цырымонны егіпцянін з рыжымі напамаджанымі валасамі і вялікімі, як у газелі, вачыма — у задуменні ён любіў указальным пальцам пагладжваць свае вусы, што прыпадобнівалі яго да англійскага маёра. Ён рабіў стаўкі жэтонамі па пяць мільёнаў; казалі, нібыта ён — стрыечны брат караля Фарука.

Я ўздыхаў з палёгкай, калі выходзіў адтуль на вольнае паветра. Алеяй Альбіні паволі вяртаўся на бульвар Карабасэль. Ужо ніколі потым мне не давялося цешыцца такімі цудоўнымі празрыстымі начамі. Святло з надбярэжных вілаў зіхатліва адбівалася ў возеры і сляпіла мне зрок, і ў тым зіхаценні было нешта музычнае, як быццам сольная партыя саксафона або трубы. Я таксама чуў вельмі лёгкі, амаль што няясны пошум платанаў уздоўж алеі. Седзячы на жалезнай лаўцы ў вакзальным доміку, чакаў апошняга фунікулёра. Памяшканне было асветленае толькі адной начной лямпай, але ў гэтым фіялетавым паўзмроку я адчуваў сябе абсалютна бяспечна. Чаго мне было баяцца? Вэрхал вайны, гармідар свету — яны не даляталі да гэтага атуленага ватай вакацыйнага аазісу. Каму прыйдзе ў галаву шукаць мяне тут, сярод знакамітых адпачынкаў?

Я сыходзіў на першым прыпынку — Сент-Шарль-Карабасэль, — а пусты вагонік працягваў падымацца далей. Ён нагадваў вялізнага светляка. Я праходзіў па калідоры пансіяната «Пад Ліпамі» на дыбачках, зняўшы загадзя свае пантофлі, бо сон у старых быў лёгкі.

*Пераклаў з французскай Ян Максімюк*



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Працоўныя з дапамогай кранаў разбіраюць стары будынак музея Вялікай Айчыннай вайны. Дэмантаж старога будынка музея, які пабудавалі на Кастрычніцкай плошчы ў 60-я гады мінулага стагоддзя, пачаўся ў верасні. Будынак, які фарміраваў ансамбль савецкага Мінска, за некаторы час проста знікне з гарадской прасторы беларускай сталіцы. За ім пpaглядаюцца ўжо сучасныя будынкі новай эпохі: офіс кампаніі Velcom і жыллёвы комплекс «Ля Траецкага» кампаніі «Трайпл». Што з'явіцца на месцы, дзе стаіць напаўразбураны будынак музея, — пакуль невядома.**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Восеньскія паркі напоўнены золатам і сонцам. Маладыя абдымаюцца і цалуюцца, старэйшыя збіраюць дармовыя яблыкі, мамы выгульваюць сваіх дзетак, дзяўчаты фатаграфуюцца. Усе спяшаюцца атрымаць асалоду ад апошніх яркіх дзянькоў.**



СЯРГЕЙ ПЛЫТКЕВІЧ

**Арменія, возера Севан. Жаданне пакупацца выветрылася імгненна.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Мінская сетка заправак «А-100» адкрыла першую ў Беларусі станцыю экспрэс-падзарадкі для электрамабіляў стандарту CHAdeMO. Зарадка ў в. Баравая можа падсілкаваць батарэю большасці электрамабіляў да 80% за 30 хвілін.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Мужчынская праблема: не паспееш ажаніцца з маладой, як тут жа падрастаюць яшчэ маладзейшыя.

* * *

Задача: дырэктар сабраў на рамонт школы 200 мільёнаў рублёў.

Пытанне: навошта школе новая «Хонда Цывік»?

* * *

Здавалася б, навошта забойцу забіваць забойцу забойцы? Але Данцову было ўжо не спыніць.

* * *

Ведаеце, як лёгка вывесці з раўнавагі дзяўчыну? Сфоткайце яе і не паказвайце.

* * *

Перад тым як нешта зрабіць, я заўсёды пытаюся ў сябе, а як бы на маім месцы зрабіў мой кот? У выніку я заўсёды ці ем, ці іду спаць.

### Латвійская тапаніміка

Маладая расейка прыехала ў Беларусь знаёміцца з радзімай бацькоў. Разгаварыліся.

— Дмітрій, а в чём секрет такого сільнага вліянія латвійской тапонімікі в Беларусі?

— ???

— Я заметіла, что многіе деревні у вас называются латвійскім словом «саугас».

**Дзмітрый Гурневіч**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Цэны прадуктаў устаноўленыя ў Вільні**, уважаючы на іх гатунак. Ялавічына за фунт (0, 41 кг) 28, 20, 16 капеек. Бараніна: задок — 16 капеек, перад — 12. Свініна свежая: шынка ці лапатка — 21 к., сала і здор — 22 к. Хлеб — 4 і 3 капейкі. Мука пшанічная за пуд ад 2 руб. 40 кап. Цукар-пясок за пуд — 5 руб. 20 кап. Малака кварта — 8 капеек. Запалкі за дзясятак — 15 капеек. Цана «Нашай Нівы» за асобнік — 5 капеек. Хто будзе ў Вільні браць даражэй — можна цягнуць пад суд.

**«НН». №41. 1914.**

**Чаму яны галасуюць за Лукашэнку?** Чарнобыльскія тэрыторыі застаюцца чорным дном Беларусі. Сваіх грошай на вырашэнне праблемы няма. Расея на Чарнобыль грошай не давала і не дасць. Досыць грошай — трэба мільёны — на Чарнобыль мае Еўропа. Па-сапраўднаму чарнобыльскія праблемы можна будзе вырашыць толькі з дапамогай еўрасаюзаўскіх інвестыцый. Гэта значыць — пасля Лукашэнкі. Таго самага, у якога так веруюць стралічаўскія бабы.

**«НН». №38. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7006. Газета выдаецца 48 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 14.10.2014.

Замова №4125.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

